**Б Я Р О З К А**

*Штомесячны дзіцячы часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ*

*Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!*

*№ 10*

**Кастрычнік**

Выдавецтва ЦК ЛКСМБ

# ДА БАРАЦЬБЫ ЗА СПРАВУ ЛЕНІНА-СТАЛІНА, БУДЗЬ ГАТОЎ!

## *Піонерскі салют*

Піонеры вітаюцца пры дапамозе салюта. Пяць пальцаў правай рукі, моцна сціснутыя, падымаюцца над галавой. Гэта азначае, што справы працоўных сваёй Радзімы і ўсяго свету піонер ставіць вышэй за свае асабістыя, што піонер рыхтуецца стаць мужным барацьбітом за справу Леніна — Сталіна.

Вось чаму кожны піонер лічыць гонарам аддаць салют свайму сябру ці пры сустрэчы — старэйшаму таварышу.

Піонер аддае салют таксама пры выкананні Гімна Савецкага Саюза, Гімна партыі большэвікоў, пры сустрэчы з піонерскім атрадам і воінскай часцю, перад маўзалеем Леніна ў Маскве, ля помніка Леніну і ля магіл загінуўшых воінаў Совецкай Арміі.

У страю пад камандай «смірна» аддаюць салют толькі важатыя звенняў, атрадаў і дружыны, а таксама старшыні саветаў дружыны і атрадаў.

## *Піонерскі сцяг*

Кожная піонерская дружына і піонерскі атрад маюць свой сцяг.

Сцяг чырвонага колеру. Для піонерскай дружыны—90 на 120 см і для атрада—60 на 80 см. На правым баку сцяга—піонерскі значок і лозунг: «Да барацьбы за справу Леніна—Сталіна, будзь гатоў!» на левым—нумар дружыны, атрада, раён або горад і імя, якое носяць дружына, атрад.

Сцяг дружыны і атрада выносіцца на піонерскія зборы, злёты, парады і дэманстрацыі. Захоўваецца ён у піонерскім пакоі або ў піонерскім кутку ў спецыяльнай пірамідзе для сцягоў і другіх піонерскіх атрыбутаў (барабанаў, горнаў і інш.) За зберажэнне сцяга адказвае Совет дружыны (атрада) і піонер-сцяганосец.

Кожная піонерская арганізацыя і кожны піонер павінны любіць, паважаць і зберагаць свой сцяг.

Чырвоны сцяг з'яўляецца дзяржаўным сцягам Совецкага Саюза. Чырвоны сцяг —гэта сімвал барацьбы працоўных за сваё шчасце і свабоду.

Пад чырвоным сцягам працоўныя нашай Радзімы змагаліся ў кастрычніку 1917 года і ў дні Вялікай Айчыннай вайны.

Піонерскі чырвоны сцяг напамінае піонеру аб яго абавязках перад сваёй Радзімай, аб урачыстым абяцанні, якое ён даваў перад гэтым сцягам.





*В. І. Ленін і І. В. Сталін з чырвонагвардзейцамі ў Смольным у кастрычніку 1917 г.*

*З мал. П. Васільева*

# СЛАЎНАЯ ГАДАВІНА

На зямлі ёсць толькі адна краіна, дзе ўлада належыць працоўнаму народу. Гэта наша Радзіма—Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

У СССР няма капіталістаў і памешчыкаў. Усе народы Совецкага Саюза жывуць дружна, працуюць на сябе і на карысць сваёй дзяржавы.

Совецкую ўладу працоўныя нашай краіны ўстанавілі 29 год таму назад, у кастрычніцкія дні 1917 года. Яны назаўсёды скінулі ўладу цара, капіталістаў і памешчыкаў і стварылі сваю совецкую ўладу.

Гэта стала магчымым таму, што барацьбой рабочых і сялян кіравала большэвіцкая партыя, кіравалі вялікія правадыры працоўных—Ленін і Сталін.

Доўга не здаваліся ворагі. Пры падтрыманні замежных буржуяў яны хацелі скінуць совецкую ўладу і зноў прыгнятаць рабочых і сялян.

Пачалася грамадзянская вайна.

Ленін і Сталін стварылі ў 1918 годзе Чырвоную Армію, якая разбіла ворагаў і адстаяла совецкую ўладу.

З гэтага часу совецкі народ пачаў жыць свабодна і будаваць новую совецкую соцыялістычную дзяржаву. Партыя большэвікоў, Ленін і Сталін вялі совецкі народ ад перамогі да перамогі.

Хутка Совецкая краіна стала непазнавальнай. Выраслі новыя фабрыкі і заводы, узніклі новыя гарады. Сяляне аб'ядналіся ў калгасы і зажылі заможна і культурна. На калгасных палях загудзелі трактары, камбайны і іншыя машыны.

Беларусь да Кастрычніка была самай адсталай краінай. Вельмі мала было ў нас фабрык і заводаў, ды і тыя дробныя. Дрэнна апрацаваная сохамі зямля давала зусім нізкія ўраджаі. Большасць людзей былі непісьменнымі. Працоўны народ жыў бедна, некультурна пад прыгнётам царызма.

Зусім па-іншаму зажылі працоўныя Беларусі пасля Кастрычніка, пры Савецкай уладзе.

У 1940 годзе Савецкая Беларусь мела сотні новых лепшых заводаў, якія славіліся на ўвесь Савецкі Саюз. У Беларусі выраблялiся не толькі розныя станкі і машыны, але нават шоўк, радыёпрыёмнікі, піяніны. На калгасных палях працавала дзесяць тысяч трактароў і паўтары тысячы камбайнаў. Беларусь мела 11 800 школ, у якіх вучыліся мільёны моладзі і дзяцей.

Усё гэта стала магчымым толькі дзякуючы Вялікаму Кастрычніку, дзякуючы Савецкай уладзе.

Бачачы такі шпаркі рост Савецкага Саюза, ворагі шалелі ад злосці.

22 чэрвеня 1941 года ўзброеныя да зубоў нямецкія фашысты напалі на нас. Яны хацелі знішчыць заваёвы Вялікага Кастрычніка, знішчыць савецкі народ і захапіць нашы багацці.

Але ўсяму свету вядома, што з гэтага выйшла. Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна савецкі народ разграміў лютых ворагаў і адстаяў заваёвы Вялікага Кастрычніка.

Нямецкія захопнікі пакінулі пасля сябе страшэнныя спусташэнні. Яны разбурылі і спалілі нашы гарады і калгасы, заводы, МТС, школы і культурныя ўстановы. Патрэбна ўсё гэта адбудаваць.

Савецкі ўрад зацвердзіў план вялікіх работ на бліжэйшыя пяць год—на 1946-1950 гады. Вярхоўны Совет БССР прыняў Закон аб пяцігадовым плане аднаўлення і далейшага развіцця Савецкай Беларусі.

Працоўныя, як адзін, горача адобрылі новую Сталінскую пяцігодку, якая прынясе нам новыя поспехі, і дружна ўзяліся выконваць яе. Праз пяць год мы не толькі адновім разбуранае, але даб'ёмся і новага росквіту. Савецкі Саюз стане яшчэ багацейшым і больш магутным, чым ён быў да Вялікай Айчыннай вайны.

У вялікай рабоце па выкананню пяцігодкі прымаюць удзел і нашы рэбяты. Яны ідуць у рамесленыя вучылішчы, каб стаць майстрамі адбудовы краіны. Яны дружна вучацца ў школах, рыхтуюцца стаць спецыялістамі, патрэбнымі краіне. Кожны павінен памятаць, што чым лепш ён будзе вучыцца, тым большую карысць прынясе сваёй савецкай дзяржаве.

Няхай жыве 29-я гадавіна Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэвалюцыі!

Чэсць і слава гераічнай Савецкай Арміі!

Чэсць і слава бацьку нашаму—вялікаму Сталіну!



# ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА З В. І. ЛЕНІНЫМ

*(З успамінаў С. К. Гіля, шофера В. І. Леніна)*

*Мал. Д. Красільнікава*

Маё знаёмства з Владзімірам Ільічом адбылося на трэці дзень пасля Кастрычніцкага перавароту—9 лістапада 1917 года.

Вышла гэта так. Я працаваў у Петраградзе, у адным з вялікіх гаражоў. Увечары 8 лістапада мяне выклікалі ў мясцовы камітэт гаража і заявілі:

— Таварыш Гіль, выбірай у сваім гаражы лепшую машыну і адпраўляйся раніцой да Смольнага. Будзеш працаваць шоферам таварыша Леніна.

Ад неспадзяванасці я не ведаў, што і сказаць. Імя Леніна было ва ўсіх на вуснах. Піцерскія рабочыя, якім пашанцавала пачуць або ўбачыць Леніна, лічылі гэта вялікай падзеяй у сваім жыцці. І раптам—мяне да Леніна за шофера!

— Ну, як, згодзен?—пытаюцца ў камітэце, бачачы, што я ўсхваляваўся.

— Канешне, згодзен!—адказаў я ўпэўнена, хоць усё яшчэ думаў сам сабе: ці спраўлюся я, ці не бяруся я за справу, якая мне не па сіле?

Але так разважаў я толькі хвіліну. Я быў малады, дужы, добра ведаў сваю работу.

—Згодзен!—яшчэ раз пацвердзіў я.

Усю ноч я думаў аб маёй першай сустрэчы з Леніным. Мне хацелася сустрэць яго як найлепш. Я ўяўляў сабе такі малюнак: выйдзе з Смольнага важны мужчына, абавязкова высачэзны і статны. Вакол яго, канешне, будзе ахова, ад'ютанты.



Бачыў я нямала важных начальнікаў царскай арміі і керанШчыны, ведаў, як ад радавых патрабавалі: «Замры! Еш вачыма начальства!».

Галоўнае, думаў я,—не спалохацца, трымацца цвёрда і спакойна.

Роўна ў 10 гадзін раніцы мой лімузін стаяў ужо ля галоўнага пад'езда Смольнага. Надыходзіла адказная хвіліна—першая сустрэча з Леніным.

Невялікая плошча ля фасада Смольнага была даволі ажыўленая. Стаяла шмат аўтамабіляў і грузавікоў. Некалькі гармат і кулямётаў грозна ўпрыгожвалі пад'езд Смольнага. Вакол хадзілі групамі ўзброеныя рабочыя і салдаты-франтавікі. Усе былі ўсхваляваныя, некуды спяшаліся. Шум стаяў незвычайны.

У гэтыя дні Петраград жыў рэвалюцыйным жыццём. Рабочыя ўзбройваліся і ішлі атрадамі граміць контррэвалюцыянераў. На вуліцах увесь час стралялі.



Дзе-ні-дзе ў дамах яшчэ хаваліся ворагі рэволюцыі, якія стралялі з акон. Далёка за Петраградам ішла крывепралітная імперыялістычная вайна, якой кіраваў царскі генерал Духонін.

Я сядзеў за рулём аўтамабіля і чакаў. Якісьці мужчына ў штацкім адзенні падышоў да мяне і запытаўся:

— Вы да Леніна?

Даведаўшыся, што гэта іменна так, ён дадаў:

— Заводзьце машыну, зараз выйдзе.

Праз некалькі хвілін на лесніцы Смольнага паказаліся тры чалавекі. Двое— высокага росту, з іх адзін у вайсковай форме, і трэці—невысокі, у чорным паліто з каракулевым каўняром і ў шапцы «вушанцы». Яны накіраваліся да мяне.

У галаве мільганула думка: хто з двух рослых—Ленін? Прызнаюся, аб трэцім я і не падумаў. На маё здзіўленне да машыны падышоў іменна ён, шпаркім рухам адчыніў дзверцы маёй кабіны і сказаў:

— Добры дзень, таварыш! Як ваша прозвішча?

— Гіль,—адказаў я.

— Будзем знаёмы, таварыш Гіль,—і ён падаў мне руку,—вы будзеце са мной ездзіць.

Ён прыветна заглянуў мне ў вочы і ўсміхнуўся.

Гэтага моманту першай сустрэчы з таварышам Леніным я не забуду ніколі.

Владзімір Ільіч папрасіў завезці яго ў Саляны гарадок. Там адбываўся вялікі сход рабочых і служачых.

Пад'ехаўшы да месца, Владзімір Ільіч вышаў з машыны і шпарка накіраваўся да схода. Рабочыя пазналі яго, з усіх бакоў загаманілі: «Ленін прыехаў! Ленін!»

Амаль кожнае слова Владзіміра Ільіча рабочыя сустракалі бурнымі воплескамі.

Вярнуўшыся да Смольнага, Владзімір Ільіч шпарка і рухава, як заўсёды, вышаў з машыны і сказаў:

— Схадзіце, таварыш Гіль, перакусіць, выпіце чайку, а я яшчэ вярнуся. Ну, пакуль!

Да гэтых слоў развітання я пасля прывык. Кожны раз, пакідаючы аўтамабіль, ён казаў: «Ну, пакуль!»

Так пачалося маё знаёмства і мая праца з Владзімірам Ільічом Леніным, якая прадаўжалася да апошніх дзён яго жыцця.




Вярхоўны Совет БССР прыняў Закон аб пяцігадовым плане аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі Беларусі на 1946—1950 гады. Гэты план з'яўляецца састаўной часткай пяцігадовага плана ўсяго Совецкага Саюза.

Усім вядома, якое вялікае значэнне мелі даваенныя пяцігодкі для росту і развіцця нашай народнай гаспадаркі. За тры бсталінскія пяцігодкі прамысловасць Беларусі павялічылася ў 23 разы ў параўнанні з 1913 годам.

Мы пабудавалі сотні новых фабрык і заводаў. Беларусь ператварылася ў багатую квітнеючую краіну.

Нямецкія фашысты, уварваўшыся на Беларусь, знішчылі большую частку нашых багацця ў. На кожным кроку мы бачым жахлівыя разбурэнні, зробленыя ворагам.

Цяжка было-б беларускаму народу аднаму залячыць раны, нанесеныя вайной і акупацыяй. Але, як заўсёды, на дапамогу нам прышоў вялікі Совецкі Саюз. Аб беларускім народзе няспынна клапоціцца таварыш Сталін. Урад СССР у пяцігадовым плане вылучае Беларусі шмат матэрыялаў і сродкаў.

За пяцігодку ў Беларусі будзе выканана работ на суму ў 6 мільярдаў 950 мільёнаў рублёў.

Што азначае гэтая сума?

Яна азначае для Беларусі тры даваенныя пяцігодкі, разам узятыя. Гэта значыць, што мы за гэту пяцігодку зробім у тры разы больш, чым было зроблена за тры пяцігодкі да вайны.

За пяцігодку мы не толькі адновім сваю краіну, але пойдзем і далей па шляху росквіту.

Напрыклад, у 1940 годзе мы здабылі 3 мільёны 280 тысяч тон торфу, а ў 1950 годзе здабудзем 4 мільёны 162 тысячы тон. Ільноваланка ў 1940 годзе мы мелі 51,5 тысяч тон, а ў 1950 годзе будзем мець 84 тысячы тон.

Вялікі рост вызначаецца пяцігодкай і па іншых відах народнай гаспадаркі.

Больш таго. Да вайны Беларусь не мела такіх заводаў, як трактарны, аўтамабільны, веласіпедны. Зараз гэтыя заводы будуюцца. Яны ўступяць у строй і будуць даваць краіне свае вырабы. Трактарны завод выпусціць у 1950 годзе 5 тысяч трактароў. Для Беларусі гэта не маленькая лічба. Гэта роўна палавіны колькасці трактароў, якую мела наша рэспубліка да вайны. Мінскі веласіпедны завод дасць у 1950 г. 100 тысяч веласіпедаў.

Нашы фабрыкі дадуць насельніцтву шмат розных тавараў.

У 1950 годзе ў нас будзе выраблящца:

9 мільёнаў 430 тысяч пар скуранога абутку;

6 мільёнаў 660 тысяч метраў рознай тканіны;

1 мільярд 550 мільёнаў каробак запалак;

5 мільёнаў квадратных метраў аконнага шкла і інш.

І тавараў і хлеба ў канцы пяцігодкі ў нас будзе значна больш, чым мы мелі да вайны.



# Ленін і Сталін

Гэта было даўно,
Як казка баіць,
Недзе над Дняпром ці над Беразіной,
Адным словам,
Было гэта ў нашым краю.
Прышлі Ленін і Сталін
Ад крыўды народ бараніць.
А да Крыўды той не падступіць:
І шлях да яе круты,
І палац у яе залаты,
Ды абнесен палац той высокай сцяной,
Ды абкружан глыбокай вадой,
Ды абстаўлен вартай ліхой,—
Ледзь да Крыўды дапытацца,
Ледзь да яе дабрацца.
Выйшлі слугі насустрэчу
І ў Леніна і ў Сталіна пытаюць:
— Чаго прышлі вы?
Можа ў ласку ўпрасіцца?
— Не.
— Можа грошай пазычыць?
— Не.
— Можа збрыдла праца?
— Не.
— Можа ў найму наняцца?
— Не.
Далажылі пра дзіўных гасцей Крыўдзе.
Чакаюць Ленін і Сталін, калі яна выйдзе.
Доўга Крыўда ў ложку адпачывала,
Доўга Крыўду слугі прыбіралі.
Высака паднялося сонца над борам,
Даўно ўжо мінуў ранак.
І толькі пад поўдзень
У залатым уборы
Выйшла Крыўда на ганак.
Выйшла—ўсе пахіліліся да зямлі.
Толькі не схіліліся Ленін і Сталін.
Ленін гаворыць:
— Калі
Мы цябе, Крыўда, шукалі,
Дні і ночы ішлі,

Праз рэкі і горы,
Праз землі, дзе ты збіраеш аброк
З старых і з малых,
З сірот гаротных,
З звяроў лясных,
Нават з птушак пералётных,—
Усюды бачылі гора...
— Дык чаго вы хочаце?—
Крыўда спытала.
— Каб хутчэй ты пакінула нашы
прасторы.
І так ужо досыць папанавала.—
Адказаў Сталін.
Здзівілася Крыўда: гэтак
З ёй ніхто не адважваўся гаварыць.
Перш хацела загадаць са свету
Двух волатаў зжыць,
Абкруціць ланцугамі...
Ды адумалася: лепш народ не гнявіць,
Лепш другімі шляхамі
Небяспеку ад сябе адхіліць.
— Што-ж, я не супроць,—
Крыўда кажа, —
Толькі перш паглядзім,
Чыя сіла яшчэ пераважа...
І кінула на вагу Крыўда
Чырвонага золата жменю.
Ніякіх скарбаў не ўзялі з сабой
У дарогу Ленін
і Сталін.
— Што-ж палажыць?—задумаўся Ленін
гаротна.
І, як дума цяжкая,
Апала
Кропля поту з яго чала.
Кропля цяжкая,
Бо над ёй і вага, пахіснуўшыся,
Ападаць пачала.
Узлавалася Крыўда,
Загадала
Несці ўсе свае скарбы з падвалаў
Прынеслі слугі бочкі срэбра.
Мала.
Прынеслі скрыні пэрлаў
Мала.
Прынеслі крушні дарагога камення.
Мала.
І толькі калі навалілася Крыўда сама—
Грузная, цяжкая,—
Памалу вага ападаць пачала:
А вага ападаць пачала,—
Ноч на нівы лягла.
А ноч на нівы лягла,—
Сцюжа люта загула....
Ніякіх скарбаў не ўзялі з сабой
У дарогу Ленін і Сталін.
Была ў іх толькі дарожная торба,
З якой
Дастаў і палажыў на вагу Сталін
Чорнага хлеба акраец.
І, неспадзявана, бы глыба якая,
Хлеб, здабыты мазольнай рукой,
Абмыты вандроўнымі дажджамі,
Абсушаны дарожнымі вятрамі,
Усё пераважыў.
Вышэй і вышэй
Уздымаючы Крыўду пад сонца, якое
Яе і спапяліла навекі.
А прах яе вецер развеяў
За высокія горы,
За цёмныя пушчы,
За сінія рэкі.

**Максім ТАНК.**






# ПРАЎДА

*Руская казка*

*Мал. А. Волкава.*

Гэта было ў дзень самых цяжкіх баёў за Сталінград.

Везлі цераз Волгу ў шпіталь раненага артылерыста. Вакол вада кіпела ад нямецкіх снарадаў. А ён як быццам і не бачыў гэтага. І не чуў грукату гармат. І не адчуваў сваёй раны. Ён расказваў свайму суседу:

— Сёння ноччу ў нас на батарэі быў Сталін...

Перавезлі раненых за Волгу. Перанеслі на насілках у шпіталь. І тут, у шпіталі, другі ранены сказаў артылерысту:

— Не хачу цябе, дружа, крыўдзіць, а толькі праўду трэба сказаць: быў Сталін гэтай ноччу на нашым фронце, ды не ў вас, не ў артылерыстаў. З пяхотаю быў.

— А ты сам яго бачыў?

— Не, сам не бачыў. Але пра гэта ў нас у часці ўсе ведаюць. У каго хочаш запытайся.

— Калі хочаце ведаць праўду,—сказаў трэці ранены,—Сталін усю ноч прабыў у штабе. Усю ноч правёў з камандзірам над картай. Ды інакш і быць не магло. А раніцою паляцеў у Маскву.

Артылерыст запытаў:

— А ты аб гэтым адкуль дазнаўся?

— Ды пра гэта ўсе ведаюць.

Тут у палату зайшоў доктар у белым халаце і строга загадаў не размаўляць.

А трэці ранены быў лётчык. Так за ім і засталося ў той раз апошняе слова.

Мінула шмат часу. Міналі месяцы. Мінуў год. Два гады мінула.

Артылерыст даўно вылечыўся, зноў ваяваў. Яшчэ раз быў ранены. І зноў вылечыўся. І прайшоў ён з баямі да самага Берліна.

У Берліне, калі здаўся ў палон апошні нямецкі салдат, пайшоў наш артылерыст паглядзець на варожы горад. І на самай галоўнай вуліцы сустрэў пехацінца. Твар у таго знаёмы, а як завуць, ніяк не ўспомніць.

Пехацінец пытаецца:

— Не памятаеш, дзе бачыліся? За Волгай, у шпіталі.

Абняліся з радасці: як-жа, баявыя сябры, сталінградцы. І медалі ў абодвух на грудзях аднолькавыя! Нічога, што да гэтага часу так і не дазналіся, як завуць адзін аднаго.

А потым пехацінец і кажа першы:

— Ну, чыя тады праўда была? Сталін — ён у пяхоце быў! Гэта ўжо верна. Чыя праўда, кажы?

— Мая, — адказвае артылерыст. — І твая таксама.

— Як-жа гэта так: і твая, і мая?

— А так: Сталін быў неадлучна з кожным з нас. І выходзіць, што праўда ў нас была агульная.




Працоўныя совецкай краіны заўсёды з ахвотай падпісваюцца на дзяржаўныя пазыкі, бо гэтыя пазыкі прыносяць вялікую карысць і дзяржаве і самім пазычальнікам.

У гады Айчыннай вайны пазыкі дапамагалі граміць лютых фашыстаў. Сродкі ад пазык ішлі на ўзбраенне слаўнай Чырвонай Арміі.

У мірны час пазыкі дапамагаюць дзяржаве будаваць новыя фабрыкі і заводы, новыя школы, дапамагаюць паляпшаць дабрабыт працоўных.

Асабліва вялікую ролю маюць пазыкі цяпер, пасля вайны. За пяцігодку мы павінны аднавіць усё разбуранае ворагамі і дабіцца новага росквіту. На гэта патрэбна шмат сродкаў. Частку сродкаў даюць дзяржаве ў пазыку працоўныя. Кожная пазыка выпускаецца на дваццаць год асобнымі аблігацыямі. За гэты час дзяржава выплачвае пазычальнікам вялікія грошы ў выглядзе працантаў і выйгрышаў.

Кожная аблігацыя мае магчымасць выйграць. Часамі выйгрыш у дзесяць тысяч разоў перавышае кошт самой аблігацыі. У верасні гэтага года ў ашчадныя касы Мінска былі прад'яўлены для аплаты дзве аблігацыі, якія выйгралі па пяцьдзесят тысяч рублёў і тры аблігацыі—па дваццаць пяць тысяч рублёў.

Тыражы выйгрышаў звычайна праводзяцца ў розных гарадах Совецкага Саюза.

12 кастрычніка ў сталіцы нашай рэспублікі — Мінску, у будынку Акруговага Дома Афіцэраў, адбыўся чацверты тыраж выйгрышаў Трэцяй Дзяржаўнай Ваеннай пазыкі.

У гэтым тыражы было разыграна 2.328.750 выйгрышаў. Сума выйгрышаў складае 621.378 тысяч рублёў.

У камісіях па правядзенню тыражоў прымаюць удзел і дзеці: яны выцягваюць нумары з выйгрышамі.

Нумары аблігацый, якія выйгралі, друкуюцца ў газетах. Пасля гэтага ашчадныя касы выплачваюць выйгрышы.

Працоўным Беларусі пасля Айчыннай вайны выплачана выйгрышаў звыш 63 мільёнаў рублёў.



**Пакруцілі тыражнае кола,—і выхаванка Мінскага дзіцячага дома Галя Сальнікава выцягвае папяровую трубачку. Зараз аб'явяць нумар выйграўшай аблігацыі.**



**У тыражы выйгрышаў прымаў удзел школьнік Ваня Врублеўскі. Намеснік старшыні Совета Міністраў тав. Лахтанаў уручыў яму за гэта падарунак.**

# СЕРГО ОРДЖАНІКІДЗЕ

Усяму совецкаму народу добра вядома і дорага імя Грыгорыя Канстанцінавіча Орджанікідзе, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Серго Орджанікідзе ўсё сваё жыццё аддаў барацьбе за справу Леніна—Сталіна.

Нарадзіўся Серго Орджанікідзе 28 кастрычніка 1886 года, у Заходняй Грузіі, у вёсцы Горэша. Бацька яго жыў бедна. Вельмі часта ён вымушаны быў хадзіць на заработкі ў руднікі.

Маці Серго памерла рана. Калі хлопчыку споўнілася тры гады, яго забрала да сябе цётка, якая і замяніла яму маці. Хутка памёр і бацька. Хлопчык астаўся сіратою. Але і дзядзька і цётка любілі Серго, як роднага сына.

Серго рос добрым чулым хлопчыкам. Ён заўсёды шкадаваў бедных і вельмі радаваўся, калі яму ўдавалася чым-небудзь ім дапамагчы.

Аднойчы ён убачыў селяніна, які касіў канюшыну. Побач сядзеў на зямлі яго сын. Селянін быў апрануты ў парваную вопратку, а сын яго не меў нават кашулі. Серго падышоў да хлопчыка і пачаў гуляць з ім. Але вось селянін скончыў касьбу і паклікаў сына. Разам з хлопчыкам падышоў да селяніна і Серго.

— Скажы,—запытаўся ён,—чаму ты так дрэнна апрануты?

— У мяне няма грошай на вопратку,— адказаў селянін.

— А чаму ў твайго сына няма кашулі?

— Усё таму-ж, бічо[1]. Няма за што купіць.

Тады Серго зняў з сябе кашулю і падаў яе селяніну.

— Што ты, што ты?—сказаў селянін.— На цябе будуць сварыцца старэйшыя!

— Вазьмі,—сказаў Серго.

Ён так настойліва ўпрошваў селяніна, што той згадзіўся і ўзяў яго кашулю.

Серго быў вельмі смелы, рашучы і праўдзівы.

Аднаго разу ён узяў у суседа каня, сеў на яго і паехаў у горы. Хлопчык ездзіў доўга, конь спацеў. Серго напаіў яго халоднай вадою, і конь загінуў. Ніхто не бачыў, як Серго браў каня. Ніхто і не дазнаўся-б, дзе ён падзеўся. Але не такі быў Серго. Ён прышоў і чэсна прызнаўся, што конь загінуў па яго віне.

[1]) Бічо —хлопчык.



*Серго Орджанікідзе ў школьным узросце.*

З малых год Серго любіў працаваць, дапамагаў дарослым збіраць вінаград, пасвіў коз, вадзіў на начлег коней. Калі яму споўнілася сем год, дзядзька паслаў яго вучыцца ў вясковую школу. Серго вучыўся добра. Скончыўшы школу, ён паступіў у чыгуначнае вучылішча, але хутка вымушаны быў яго пакінуць—не было сродкаў на вучобу. Вучыцца-ж вельмі хацелася. У той час Серго марыў стаць доктарам. Яму здавалася, што на гэтай рабоце ён прынясе найбольшую карысць працоўнаму народу.

Яго стрыечны брат Тарасій працаваў тэлеграфістам на станцыі Караязы, недалёка ад Тыфліса. Ён і дапамог Серго паступіць у фельчарскую школу пры Тыфліскай больніцы.

У гэты час у Тыфлісе вышаў першы нумар газеты тыфліскіх рэволюцыянераў «Брдзола» («Барацьба»), арганізаванай

таварышам Сталіным і яго бліжэйшым саратнікам Ладо Кецхавелі. «Брдзола» і рэволюцыйныя лістоўкі траплялі у фельчарскую школу. Серго чытаў іх з захапленнем. Ён зразумеў, што для таго, каб усе народы зрабіліся вольнымі і роўнапраўнымі, каб яны добра жылі,—трэба знішчыць памешчыкаў і капіталістаў. І Серго Орджанікідзе ўступае ў рэволюцыйны гурток. Ужо з самых ранніх год ён становіцца актыўным змагаром за справу рабочых і сялян.

Вядома, у той час на кожным кроку яго чакала небяспека. Царскія чыноўнікі арыштоўвалі і садзілі ў турмы ўсіх, хто расказваў народу праўду і заклікаў яго да барацьбы супроць цара, памешчыкаў і капіталістаў.

5 студзеня 1906 года Серго Орджанікідзе быў арыштаваны. Ён прасядзеў у турме да 7 чэрвеня і быў выпушчаны на парукі. Серго вярнуўся ў Тыфліс. Тут, у рэдакцыі большэвіцкай газеты «Дро» («Час»), ён упершыню сустрэўся з таварышам Сталіным. Гэтая сустрэча зрабіла на Серго вялікае ўражанне. Таварыш Сталін падараваў яму адну з новых сваіх кніг. З гэтага дня пачалася дружба Серго Орджанікідзе з вялікім правадыром працоўных.

У сакавіку 1907 года Серго Орджанікідзе быў уведзены ў склад Бакінскага большэвіцкага камітэта, якім кіраваў таварыш Сталін.

Шмат і настойліва працаваў Серго Орджанікідзе. Партыя, таварышы Ленін і Сталін пасылалі яго на самыя адказныя работы, бо былі ўпэўнены, што ён заўсёды выканае іхняе даручэнне.

Царскі суд некалькі разоў судзіў Серго. Адзін раз суд прыгаварыў яго да вечнай ссылкі ў Сібір, але Серго ўцёк з ссылкі. У 1912 годзе, у Пецербургу, шпікам зноў удалося арыштаваць Серго. Тры гады ён прасядзеў у Шлісельбургскай крэпасці, а потым быў высланы ў Якуцію.

З радасцю спаткаў Серго Орджанікідзе



*М. І. Калінін уручае Серго Орджанікідзе ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.*

Кастрычніцкую соцыялістычную рэволюцыю. Калі-ж белагвардзейскія банды напалі на маладую совецкую рэспубліку, партыя пасылае Серго Орджанікідзе на самыя адказныя ўчасткі фронта. Серго Орджанікідзе кіраваў абаронаю Уладзікаўказа, Царыцына, быў ён і ў нас на Беларусі.

У адну з цёмных начэй 1919 года ён разам з членамі Барысаўскага рэволюцыйнага камітэта і дзесяткам чырвонаармейцаў, з вінтоўкаю ў руках, пайшоў у разведку к Барысаву. Яны зайшлі ў далёкі белапольскі тыл і добра разведалі сілы ворага. А праз два дні Барысаў быў вызвалены часцямі Чырвонай Арміі.

У годы сталінскіх пяцігодак Серго Орджанікідзе заўсёды знаходзіўся на самых адказных пасадах. У апошні час ён працаваў на пасту Народнага Камісара цяжкай прамысловасці СССР. Ён кіраваў будаўніцтвам соцень фабрык і заводаў, шахт і доменных печаў.

Ён часта сам бываў на заводах і фабрыках, гутарыў з рабочымі, распытваў пра іх жыццё, дапамагаў ім. Рабочыя вельмі любілі Серго. Ён быў для іх блізкім, дарагім. «Наш Серго»,—так называлі рабочыя свайго наркома.

Памёр Серго Орджанікідзе 18 лютага 1937 года. Яго смерць з'явілася вялікай стратай для ўсяго совецкага народа.



# БУЛЬБА

*Кацярына КАТОВІЧ*

*Мал. М. Гурло*

Маломy Андрэйку вельмі хацелася пабачыць партызанаў. Маці і старэйшы брат Косцік заўсёды гаварылі аб іх шэптам, а яго на гэты час стараліся выслаць з хаты.

— Схадзіў-бы, сынок, да сваіх сяброў, пагуляў-бы з імі,—звычайна казала яму маці.

Але ў Андрэйкі на той час якраз то жывот забаліць, то галава, а то кніжку яму захочацца дачытаць. Нарэшце-такі гэта яму надакучыла, і ён з абурэннем сказаў аднойчы маці і Косціку:

— Досыць вам ад мяне хавацца, ведаю, што вы гаворыце аб партызанах. Ведаю таксама, што і Косцік хоча ісці ў партызаны, і ў яго ўжо ёсць вінтоўка, толькі ён яе схаваў. А калі вы думаеце, што я каму-небудзь скажу, дык...

Тут Андрэйка махнуў рукою і замоўк: на яго вачах з'явіліся слёзы.

— Добра, Андрэйка,—спакойна сказаў Косцік.—Сапраўды ты ўжо не малы, і мы дарэмна ад цябе хаваліся. Ты-ж, вядома, разумееш, што нікому нельга гаварыць пра тое, што чуў і пачуеш, не толькі якому-небудзь, скажам, паліцаю, але і самаму найлепшаму свайму сябру.

— Ды што я не разумею? Вядома, нікому не скажу,—паабяцаў Андрэйка.

Пасля гэтай размовы Андрэйка вельмі рэдка наведваў сваіх сяброў. Затое ён не адыходзіў ад Косціка. Увечары яны абодва залазілі на печ, і там Косцік упаўголаса расказваў яму пра партызанаў.

Нарэшце, Андрэйка такі пазнаёміўся з партызанамі. Адбылося гэта неяк у пачатку зімы, хутка пасля яго апошняй гутаркі з маткаю і Косцікам.

Толькі што яны пакладіся спаць, як нехта пастукаў у дзверы. Косцік хуценька ўскочыў на печ і адчыніў люк на гару, каб праз яго ўцячы: думаў, што нямецкая аблава. Не на жарт напалохаліся і Андрэйка, і маці.

Але стукалі свае. У хату ўвайшлі трое. Адзін з іх быў з суседняй вёскі.

Андрэйка пазіраў на іх з-пад коўдры. А Косцік, дык той злез з печы, прывітаўся з усімі за руку.

— У цябе няма вінтоўкі?—запыталіся партызаны ў Косціка.

— Вінтоўка ёсць, але-ж мне і самому яна хутка спатрэбіцца,—адказаў Косцік.

Разгаварыліся. Парашылі, што Косцік застанецца пакуль-што дома: работы хопіць і тут. Узялі Косцікаву вінтоўку і пайшлі. Адыходзячы паціснулі руку і Андрэйку.

— Да пабачэння,—сказаў адзін з іх.—Дапамагай брату.



*Узялі Косцікаву вінтоўку...*

З гэтага часу пачалося самае цікавае. На другі дзень Косцік дастаў каня і паехаў у лес па дровы, хоць дроў дома было многа. Не паспеў яшчэ Андрэйка як след намарозіць сабе вушы, коўзаючыся на драўляных каньках, як Косцік ужо вярнуўся з лесу.

Заехаўшы ў двор і спыніўшы каня, ён сказаў:

— Укінь ты, браток, у хлеў мех з сенам,—а сам пачаў скідаць з воза ламачча.

Андрэйка ўзяўся за мех і здзівіўся: да чаго-ж ён цяжкі!

У той-жа вечар амаль у кожнай хаце, схіліўшыся да газнічкі, чыталі сяляне партызанскую газету.

Цяпер Косцік пачаў часта ездзіць у лес то па дровы, то па жэрдкі, а потым раптам надумаўся на лазню зруб рубіць. Калі-ні-калі ён браў з сабою ў лес і Андрэйку. Аднойчы ён паказаў Андрэйку стары дуб.

— Глядзі, добра запамятай гэтае месца і гэты дуб,—сказаў ён.—Бачыш, якое дупло ў ім, засунь туды руку.

Андрэйка засунуў і выцягнуў з дупла скрутак газет.

— Там і яшчэ нешта ёсць цяжкое,—сказаў ён.

Косцік сам выцягнуў другі пакунак і многазначна зірнуў на Андрэйку.

Яны накідалі на воз абы якога ламачча і хуценька паехалі дадому.

Калі хлопцы зайшлі ў хату, дык убачылі, што маці ляжыць на ложку, укрыўшыся коўдрай, кажухом і яшчэ нечым.

— Напаіце, сыночкі, кароўку,—сказала яна.—Нешта мне зусім нездаровіцца.

Косцік дык разгубіўся ад нечаканасці: заўтра-ж маці павінна была завезці ў горад той пакунак, які яны дасталі з дупла. Сам Косцік не мог адлучыцца ад дому, бо быў на прыкмеце ў паліцыі. «Што рабіць?»—падумаў ён.

Андрэйка доўга пазіраў на брата, а потым падышоў і сказаў:

— Давай я завязу. Чэснае слова ўсё зраблю, як загадаеш.

— Гэта-ж вельмі небяспечна,—пачаў быў Косцік, але Андрэйка так пазіраў на яго, што ён адразу здаўся. Рашылі не казаць праўды маці, каб не хваляваць яе. Сказалі ёй, што Андрэйка паедзе ў горад і прадасць з пуд бульбы, а за гэтыя грошы купіць сахарыны. Маці вельмі хацела салодкай кавы і таму згадзілася. Яна загадала ўзяць яшчэ збаночак смятаны і шклянку масла.



— Ці патрэбна вам бульба?

Падрыхтавалі хлопцы ўсё яшчэ з вечара. А раніцою Андрэйка вышаў за вароты і пачаў пільнаваць фурманкі: можа хто падвязе да горада. Згадзілася падвезці цётка Арына. Гэта было добра, бо Арына жанчына маўклівая, аб лішнім не будзе распытваць.

Пры ўездзе ў горад, на мастку, іх затрымаў паліцай. Ён знайшоў нейкую няспраўнасць у пропуску і хацеў ужо весці іх у камендатуру. Але дзесяць яечак, што цётка Арына везла прадаваць, пераканалі яго, што пропуск быў-такі, як трэба. Яны паехалі далей. Андрэйка ўздыхнуў з палёгкаю.

Не даязджаючы да рынка, Андрэйка папрасіў цётку Арыну спыніцца і злез насупраць доміка, аб якім яму расказаў Косцік. Цётцы Арыне ён сказаў, што іх прасілі завезці сюды бульбу.

Не паспеў яшчэ Андрэйка ўсцягнуць мех з бульбай на ганак, як да яго падышоў паліцай.

— Што цягнеш?—закрычаў ён.—Прадай мне!

У Андрэйкі ажно рукі затрымцелі ад страху.

— Дзядзечка, гэта мёрзлая бульба, для свінні прывёз,—шпарка загаварыў

ён.—Вам яна не патрэбна. У мяне смятана яшчэ ёсць, можа, купіце?

— Смятана?—узрадаваўся паліцай.—Давай яе сюды! А што яшчэ ёсць? Усё куплю!

— Масла яшчэ ёсць, а больш нічога няма,—сказаў Андрэйка, пазіраючы на паліцая.

Тут ля іх спыніўся немец.

— Масла, гут масла,—буркнуў ён.

Андрэйка маўчаў і пазіраў то на паліцая, то на немца.

— Не чуеш?—раптам крыкнуў паліцай.—Пан масла купіць хоча.

Андрэйка выцягнуў з торбачкі шклянку з маслам. Немец моўчкі забраў яе, паклаў у сваю кішэню і гэтак-жа моўчкі пайшоў.

— За грашыма прыдзеш на кватэру,—сказаў паліцай і падаўся ўслед за немцам.

— А дзе-ж вы жывеце?—крыкнуў, ледзь не плачучы, Андрэйка.

— Між небам і зямлёй,—адказаў паліцай і зарагатаў.

Але тут Андрэйка ўспомніў пра мяшок з бульбай і пачаў з усіх сіл абодвума кулакамі стукаць у дзверы. На стук вышла жанчына.

— Ці патрэбна вам бульба мёрзлая, для свінні?—запытаўся Андрэйка ўмоўленымі словамі.

— Калі не дорага, дык вазьму,—таксама ўмоўленымі словамі адказала жанчына і пацягнула мех у сенцы.—Валодзя, высып бульбу!—загадала яна камусьці.

Усё было так проста, так звычайна, што Андрэйка пачаў сумнявацца: ці не памыліўся ён? Тым часам вышаў той, каго назвалі Валодзем, і Андрэйка пазнаў у ім аднаго з партызанаў, што прыходзілі за вінтоўкай. Ён падаў Андрэйку руку і сказаў:

— Малайчына, бульба добрая, дзякуй!

— А цяпер ідзі хуценька, хлопчык,—сказала жанчына, аддаючы мех.

Ад радасці Андрэйка не чуў пад сабою ног. Гэта-ж не жартачкі: ён выканаў сур'ёзнае заданне, яго нават пахвалілі!

На вуліцы Андрэйка на момант затрымаўся: ісці на рынак шукаць цётку Арыну, ці падацца дадому аднаму? Рашыў ісці дадому.

«Калі дагоніць, дык падвязе»,—падумаў ён.

Цётка Арына і сапраўды дагнала яго па дарозе.

— Куды-ж ты падзеўся?—запыталася яна.—А я шукала-шукала цябе на рынку, так і не знайшла. Сахарыны-ж ты купіў?

— Не, не купіў. У мяне немцы і паліцаі ўсё адабралі—і масла, і смятану, і бульбу...

— Нічога не зробіш, сынок, не бядуй, я табе пазычу сахарыны,—сказала цётка Арына.

Ужо змяркалася, калі яны прыехалі ў вёску. Андрэйка яшчэ здалёк убачыў Косціка, які стаяў ля варот.

Андрэйка зразумеў, што брат непакоіцца, але пры Арыне ён не мог сказаць яму ўсю праўду.

— Прадаў?—запытаўся Косцік, ледзь толькі сані параўняліся з ім.

— Немцы ды паліцаі ўсё адабралі...—адказаў Андрэйка.

— Але-ж, пакрыўдзілі малога,—пацвердзіла і цётка Арына.—Ты толькі хворай маці не кажы.

І яна паехала, а Андрэйка саскочыў з саней.

— Андрэй, як-жа гэта ты?—запытаўся спалоханы Косцік.

Але тут Андрэйка не сцярпеў. Ён ухапіў Косціка за рукаў і таропка загаварыў:

— Усё добра, Косцічак. Бульбу аддаў каму трэба. Пахвалілі і мяне і табе дзякавалі,—дадаў ён, жадаючы і Косціку зрабіць прыемнасць.

Потым ён збегаў да цёткі Арыны і пазычыў у яе сахарыны.

Павячэраўшы і напаіўшы маці гарачай жалудовай кавай, хлопцыляглі на адзін ложак і аб нечым доўга шапталіся.

— Ну, а цяпер, браток, будзем чакаць салюта,—сказаў напаследак Косцік, і яны заціхлі.

Але Андрэйка і сам не заўважыў як заснуў. Прачнуўся ён ад моцнага выбуху. Косцік штурхаў яго пад бок.

— Бяжым хутчэй, паглядзім,—казаў ён.

За першым выбухам грымнуў другі, потым трэці.

Хлопцы, не апранаючыся, выскачылі на двор.

За лесам, у тым баку, дзе быў горад, яны ўбачылі зарава вялікага пажару.

Хлопцы яшчэ пастаялі троху ў двары. Ноч была марозная, дзьмуў вецер, ішоў снег.

Косцік і Андрэйка падаліся ў хату.

А праз хвіліну яны ўжо моцна і бесклапотна спалі, укрыўшыся коўдрай і старым кажушком.



# Адлёт жураўлёў

*Кастусь КІРЭЕНКА*
*Мал. В. Ціхановіча*

Яшчэ гарэлі, быццам зоркі,
Маланкі-кветкі ля дарог,
Цвілі тапорыкі на ўзгорках,
І васілёк красу бярог;

Яшчэ пад сонцам бор сасновы
Жывіцай дыхаў з-пад кары,
І захад сонца быў барвовы,
І быў ружовы лік зары;

Яшчэ начамі рэчку ў зорах
Будзілі плёскатам самы,—
Ды ўжо стары вандроўнік-жораў
Пачуў пагрозны дых зімы.

Ён чуў яго у шуме хваляў,
Што ўсё цямнелі дзень ад дня,
У тым, як ветры хмары гналі,
У злосным зыку авадня.

А дні ляцелі. Жораў пільна
Сачыў за зменамі ў жыцці.
Ды спрабаваў на дужасць крыллі
Над журавінамі ў трысці.

Вось і агністае убранне
Скідае лес сярод балот.
Пара! І крыкам на світанні
Ён абудзіў ўвесь свой род.

— Гэй, дзеці, кланяйцеся гэтым
Барам, азёрам і лугам,
Што ў дні вясны і цёплым летам
Прытулак свой давалі нам!

Прышла пара ляцець за мора,
Скажыце-ж дзякуй той зямлі—
Лясным рачулкам, сонцу, зорам,—
Дзе мы без крыўды пражылі...

І ўвесь род ціхі жураўліны
За важаком падняў крылы
І пакланіўся журавінам
І праспяваў: курлы-курлы!

Плывуць пад імі лес, даліны,
Далей-далей—а ўсё відаць:
На дзюбках птахаў журавіны
Пад сонцам восеньскім гараць.






*Е. САДОЎСКІ*

*Фота В. Лупейкі*

Шырокая роўная дарога вядзе вас у густы сасновы лес. Збоку блішчаць люстрамі светлыя воды прыгарадных азёр. Але вось вы мінулі азёры, лес, і перад вамі раптам паўстае зусім новы малюнак... Вы бачыце доўгія, яшчэ няскончаныя, карпусы будынкаў. Муляры адзін за другім роўнымі радамі кладуць цэглу, узводзячы сцены. Да вас даносіцца звон жалеза—гэта рабочыя рыхтуюць жалезныя бэлькі і перакрыцці. Там, дзе сцены выраслі, ўстаўляюцца аконныя каробкі і рамы. Шкляры ўслед шкляць вокны.

Вы ўглядаецеся ў будынкі і заўважаеце, што перад вамі вырастае цэлы гарадок.

Што-ж гэта за гарадок?

Гэта будучы Мінскі трактарны завод.

Усім даўно вядомы такія назвы, як «ХТЗ», «ЧТЗ». Мы ведаем, што гэтыя літары азначаюць буйнейшыя ў Савецкім Саюзе трактарныя заводы—Харкаўскі і Чэлябінскі.

Нядаўна ўступіў у строй трактарны завод, пабудаваны на Алтаі—«АТЗ».

А ў канцы пяцігодкі на калгасных палях з'явяцца першыя тысячы новых трактароў, на якіх будзе красавацца «МТЗ».



*Лепшы арматуршчык МТЗ Мікалай Лазарэнка.*



*Адна з вуліц рабочага пасёлка на заводзе.*



*У школе МТЗ. На першай парце Оля Арэўева і Шура Томкушмель.*

Гэта будуць магутныя трактары, з маторам у 37 конскіх сіл.

Вялікую плошчу займае трактарны гарадок. Тут будуюцца ўсе цэхі, патрэбныя для вырабу трактароў—сталеліцейны, кавальскі, прэсавы, радыятарны, цэх каляровага ліцця і іншыя. Трактарны завод будзе мець сваю электрычную станцыю. Ад самых дробных да самых буйных частак трактара зробіць завод на месцы.

Апрача завадскіх будынкаў, вырастае жылы гарадок для рабочых і служачых завода. У гэтым гарадку будуць сваё кіно, свой клуб, свае магазіны, школы. Спецыяльная трамвайная лінія звяжа трактарны завод з цэнтрам Мінска.

Вялікі ўдзел у будаўніцтве Мінскага трактарнага завода прымае моладзь. Комсамол Беларусі ўзяў шэфства над заводам і паслаў на будаўніцтва яго сотні маладых рабочых. Шмат юнакоў і дзяўчат выехала на вучобу на другія трактарныя заводы Совецкага Саюза. Там яны набудуць патрэбныя веды і кваліфікацыю і вернуцца гатовымі майстрамі на свой трактарны завод.





# *Аркадзь Пятровіч Гайдар*

У нашай краіне вельмі добра вядома імя Аркадзя Пятровіча Гайдара—аднаго з выдатнейшых дзіцячых пісьменнікаў. Кожны школьнік і піонер захапляецца яго цікавымі кнігамі «Р. В. С.», «Цімур і яго каманда», «Мае сябры», «Лёс барабаншчыка», «Далёкія краіны» і інш.

Аркадзь Пятровіч Гайдар вельмі любіў дзяцей, быў іхнім лепшым другам. Вельмі часта ён наведваў дзіцячыя дамы, школы, гутарыў з рэбятамі, цікавіўся іх жыццём і вучобай.

Аркадзь Гайдар нарадзіўся ў 1904 годзе ў горадзе Арзамасе, непадалёк ад Горкага. Калі яму споўнілася 14 год, ён добраахвотна пайшоў у Чырвоную Армію, удзельнічаў у баях з белагвардзейскімі бандамі. Праз пяць год Гайдар быў ужо камандзірам палка. З 1924 года ён цалкам аддаецца літаратурнай працы. Сваіх чытачоў Гайдар заўсёды вучыў любіць сваю цудоўную радзіму.

Гайдар быў не толькі выдатны пісьменнік, але і выдатны воін. Калі ў 1941 годзе на нашу краіну напалі нямецкія фашысты, ён пайшоў на фронт, каб з вінтоўкаю ў руках адстойваць шчасце свайго народа. 26 кастрычніка 1941 года, у адным з жорсткіх баёў на Украіне, Гайдар загінуў смерцю героя. Ён пахаваны ля горада Канева, непадалёк ад магілы Тараса Шэўчэнкі.



*Аркадзь Пятровіч Гайдар.*

Наша Радзіма ніколі не забудзе Аркадзя Гайдара—выдатнага пісьменніка і патрыёта.

# ЧАМАДАН

*(З апавяданняў пра Гайдара)*

*Б. ЕМЕЛЬЯНАЎ*

*Мал. П. Карачынцава*

Дзіцячы дом імені 8 сакавіка стаяў у лесе непадалёк ад станцыі Паваpаўка. Цяпер там дзіцячага дома няма: немцы, адыходзячы ад Масквы, разбурылі і знішчылі яго, а лес ссяклі.

Калі ехаць ад Масквы, трэба было, сышоўшы на станцыі, ісці да дому налева, а калі ад горада Кліна—направа. Аркадзь Гайдар хадзіў і направа і налева, бо жыў ён у той год і ў Маскве і ў Кліне. У Маскве адпачываў, а ў Кліне працаваў і часта ездзіў туды і назад.

Ад Масквы да Кліна тры гадзіны язды, але Гайдар, здаралася, умудраўся на кароткі гэты шлях траціць па двое і трое сутак. Даедзе да Паварäўкі, сыйдзе з поезда і пойдзе ў госці да рэбят. Вельмі любілі дзеці гэтыя нечаканыя наезды Гайдара і заўсёды хваляваліся: ці надоўга прыехаў Аркадзь Пятровіч? Але гэта была такая вялікая «вайсковая тайна», што нават сам Гайдар яе не ведаў. Калі толькі дзеці не вельмі шумелі і не перашкаджалі яму працаваць, ён жыў дзень,

два, а іншы раз і болей. А потым збіраўся і ехаў у Маскву або ў Клін, гледзячы па патрэбе.

Аднойчы ўлетку Гайдар загасцяваўся ў Павараўцы і пражыў там трое сутак. А на чацвертыя суткі ён падняўся раніцою, зірнуў на сонца, на бярозкі і сказаў па сакрэту дырэктару дзіцячага дома таварышу Сокалаву, каб яму прынеслі з спальні шапку-кубанку, шынель і чамадан. Рэчы прынеслі, і Гайдар паціху ад усіх, каб рэбяты не вельмі крычалі, пайшоў на станцыю.

Але не так проста было непрыкметна знікнуць з Павараўкі. Не паспеў ён прайсці і сотні крокаў, як з-за бярозавых кустоў выскачылі хлапчукі: Грыша, Пеця і Энка,—а за імі прыбегла і выхавацельніца Аня.

— Злавілі!—закрычалі дзеці і пабеглі да Гайдара.

— Злавіла я вас, непаслухмяныя!—закрычала Аня і пабегла за дзецьмі.

Тады Гайдар спыніўся і схапіў сваімі рукамі ўсіх трох рэбят адразу.

— Ну, калі ўсе адзін другога злавілі,—адказу ён,—рабіць няма чаго. Праважаючыя — наперад. Еду ў Маскву. Аркестр няхай іграе марш...

Грыша і Пеця пабеглі па алеі, Аня пайшла поплеч, а Энка схапіў абедзьвума рукамі невялікі з трыма латкамі чамадан Гайдара і, крэкчучы, пацягнуўся ўслед. Кракtaў Энка больш ад стараннасці: у гайдараўскім чамадане апрача мыла, рушніка і зубной шчоткі нічога не было.

Так і прышлі на станцыю.

Калі паказаўся з-за лесу дымок поезда, Энка, пашаптаўшыся з сябрамі, высунуў наперад сваю стрыжаную галаву.

— Аркадзь Пятровіч!—сказаў ён, заікаючыся ад хвалаявання.—Чаму вы такі вядомы, а чамаданчык у вас так сабе?..

Гайдар задумаўся, а выхавацельніца Аня пачырванела і адвярнулася. Поезд ужо зусім блізка падыходзіў да станцыі. Тады Гайдар пагладзіў тры абстрыжаных хлапчуковых галавы, а Ані моцна пацiснуў руку.

— Не гаруй, Энка, і не хвалюйся,—сказаў ён,—горш было-б, калі-б чамадан у мяне быў вядомы, а сам я—так сабе... Наша з табой справа вайсковая, не ў чамаданах шчасце...

Гайдар скочыў на падножку вагона, і поезд крануўся.

А Энка доўга стаяў на платформе і працаваў мазгамі. Думаў.



*— Чаму вы такі вядомы, а чамаданчык у вас так сабе?..*

# ЯК ЧАЛАВЕК НАВУЧЫЎСЯ ЛЯТАЦЬ

*Л. БАЙДАКОЎ*

### Мары чалавека

Марыць аб палёце ў паветры людзі пачалі вельмі даўно. Да нашага часу дайшлі цікавыя казкі і легенды старажытных людзей аб першых летунах і самалётах. У казках, як вядома, ведзьмы і чараўнікі лятаюць на веніках, або на абрусах-самалётах.

Захавалася цікавая легенда аб афінскім скульптары Дзедале і яго сыне Ікары. Дзедала абвінавацілі ў забойстве пляменніка і выгналі на востраў Крыт, якім уладаў цар Мінос. Мінос пасадзіў Дзедала з сынам у высокую турэмную вежу. Дзедал парашыў уцячы з вострава на радзіму. Але востраў быў акружаны морам і даплысці да берага Дзедал і яго сын не маглі.

Тады, як апавядаецца ў легендзе, Дзедал, нібы зрабіў сабе і сыну крыллі з птушыных пер'яў, склеіўшы іх воскам. Прыладзілі яны крыллі і паляцелі. Бацька ўвесь час раіў сыну не ўзнімацца высока. Але Ікар не паслухаўся бацькі, яму радасна было адчуваць сябе ў паветры вольнай птушкаю. Ён узнімаўся ўсё вышэй і вышэй, бліжэй да сонца. І тады праменні сонца растапілі воск, крыллі рассыпаліся, а Ікар упаў з вышыні на скалу і разбіўся.

### Ад мар да справы

Хутка ад мар чалавек перайшоў да справы: пачаў майстраваць сабе крыллі, падобныя на птушыныя.



*Чалавек хацеў лятаць, як птушка.*

Ужо ў 1164 годзе ў Візантыі адзін турак зрабіў сабе крыллі з лазовых дубцоў, абшыў палатном і, узяўшы іх у рукі, саскочыў з царкоўнай вежы. Вядома, чалавек гэты не паляцеў. З вялікай вышыні ён упаў на зямлю, разбіўся і хутка памёр.

А ў 1729 годзе ў вёсцы Ключ, недалёка ад Разані, каваль па прозвішчу Чорная Граза таксама змайстраваў сабе крыллі. Яны былі зроблены з самых мяккіх пер'яў каршакоў і кнігавак. Каваль прымацаваў гэтыя крыллі да рук, прывязаў да ног вялікі хвост і саскочыў з царкоўнай вежы, але зачапіўся нагамі за вежу. Поп вельмі ўзлаваўся на каваля і спаліў крыллі і хвост.

Спрабавалі лятаць такім чынам і іншыя людзі. Але ўсе спробы былі няўдалымі. Вынаходнікі ламалі сабе рукі і ногі, а іншы раз зусім забіваліся.

### Чаму лятаюць птушкі

Здаецца і крыллі чалавек рабіў не горшыя птушыных, але лятаць на іх не мог. Чаму? А таму, што косці ў птушак пустыя ў сярэдзіне і напоўнены паветрам. Птушкі маюць у сваім целе яшчэ і мяшкі, у якіх таксама знаходзіцца паветра. Таму цела птушак вельмі лёгкае. Апрача таго, птушка дужэйшая за чалавека. На першы погляд гэта здаецца дзіўным. Аднак, гэта так. Чалавек павінен быць разоў у дзесяць дужэйшы, каб мець, у параўнанні з сваёй вагой, такую сілу, якую, ў параўнанні з сваёй вагой, мае птушка. Каб чалавек мог трымацца ў паветры, дык яму, па яго вазе, патрэбны крыллі даўжынёй у 3—5 метраў. А такімі крылламі чалавек не здолее ўзмахнуць і некалькі разоў. Але калі-б ён і меў вялікую сілу, дык і ў гэтым выпадку не паляцеў-бы, бо птушкі ўзмахваюць крылламі не проста зверху ўніз, а заграбаюць імі паветра.

Першы, хто добра вывучыў палёт птушак, быў італьянскі мастак і вучоны Леанарда да Вінчы, які жыў у пачатку XVII стагоддзя. Ён напісаў кнігу, у якой даводзіў, што лятаць чалавек можа. Гэтага можна дасягнуць, калі зрабіць вінт з лопасцямі, які гнаў-бы паветра пад крыллі.

Але кнігу Леанарда да Вінчы ў той час ніхто не чытаў, бо людзей зацікавіла новае пытанне.

### Як запрэгчы дым

Заўважылі людзі, што дым з камінОў узнімаецца высока ў неба, і зацікавіліся гэтым. А што калі дымам напоўніць лёгкую пасудзіну, ці падыме ён яе? Пачалі людзі ляпіць папяровыя шары, напаўняць іх дымам і пускаць у паветра.

Першымі такія доследы зрабілі рускія. У 1631 годзе, у Разані, жыў нейкі Кракушын-Фурвін. «Зрабіў ён сабе,—кажа летапісец,—як мячык, вялікі шар. Надзьмуў яго дымам. Да шара прымацаваў пятлю, сеў у яе, і нячыстая сіла падняла яго вышэй бяроз. Потым ён узняўся яшчэ вышэй, а пасля ўдарыўся аб каланчу, схапіўся за вяроўку, якой звоняць, і, дзякуючы гэтаму, застаўся жывы».

За гэты палёт Кракушын ледзь не заплаціў сваім жыццём. Папы нават хацелі закапаць яго ў зямлю жывым. Прайшло больш 150 год пасля гэтага выпадку. Вопыт Кракушына-Фурвіна некалькі разоў паўтарылі ў Еўропе. Французы, браты Мангальф'е, пачалі рабіць папяровыя шары. Напаўнялі яны іх дымам і гарачым паветрам. Першы шар, які яны пусцілі ў паветра, меў 34 метры ў дыяметры.

Ён падняўся ў неба на 300 метраў і пратрымаўся ў паветры 10 хвілін.

Хутка было заўважана, што не дым узнімае шар, а нагрэтае паветра. У гэты час стаў вядомым газ вадарод. Вадарод, як вядома, у 14 разоў лягчэйшы за паветра. Таму шары пачалі напаўняць вадародам.

### Першыя летуны

Спачатку да шароў прымацоўвалі цяжкія рэчы. Шар падымаў іх у паветра. Значыць, і чалавек мог узняцца ў паветра. Але на гэта ніхто не адважваўся. Тады парашылі пусціць у першы палёт барана, пеўня і качку. Прымацавалі да шара вялікі кошык, і ў кошык пасадзілі першых летуноў. Шар спачатку падняўся высока ў неба, а потым апусціўся на зямлю. І хоць кошык зачапіўся за дрэва, але баран і птушкі засталіся нікольві не пашкоджанымі.

Пасля гэтага людзі і самі адважыліся падымацца ў паветра на шарах. А 7 студзеня 1785 года француз Бланшар і амерыканец Джэфры пераляцелі на паветраным шары цераз увесь Ламанш.

### Цырк у паветры

Паветраныя шары хутка былі асвоены чалавекам. Вынайдзены былі спецыяльныя машыны, якія кіравалі палётам шара. У Францыі паветраны шар зрабіўся модай. Кожны заможны чалавек лічыў патрэбным мець свой шар. У Парыжы шары пачалі скарыстоўваць для цырка. Французскі акрабат Шэвелен замест кошыка або лодкі прымацоўваў да шара трапецыю, садзіўся на яе і, лятаючы ў паветры, выконваў на ёй розныя фізкультурныя нумары.



*Першыя летуны.*

Француз Трэсцю замест кошыка прымацоўваў да шара пляцоўку без поручняў. На ёй ён ставіў каня, садзіўся на яго і, гэтак лётаючы, кланяўся публіцы.

А жанчыны-парыжанкі рабілі сабе невялікія шары з кошыкамі. І шары, і кошыкі яны афарбоўвалі пад колер хмар. Парыжанкі апраналіся ў белае адзенне, садзіліся ў кошыкі і ўзнімаліся ў паветра.

### Пад пагрозаю смерці

Нарэшце, мара чалавека спраўдзілася. А колькі стагоддзяў патрабавалася для гэтага! Чаму-ж так марудна спела думка чалавека? Перш за ўсё таму, што вынаходнікі паходзілі з бедных людзей і не мелі сродкаў, ажыццявіць сваю мару. Апрача таго, ім заўсёды перашкаджалі папы. Усякія спробы чалавека лятаць папы строга забаранялі. Былі нават указы, якія забаранялі палёты пад пагрозай смерці.

Так, у другой палове XVI стагоддзя, пасля палёту Мікіткі пад Масквой, быў

выдадзены ўказ. У ім гаварылася: «Чалавек—не птушка, крылляў не мае. А калі хто прымацуе сабе такія крыллі, дык за гэтае сяброўства з нячыстай сілай адсекчы выдумшчыку галаву. Цела яго свінням выкінуць, а выдумку пасля свяшчэнных літургій агнём спаліць».



*Самалёт братоў Райт.*

Усякае вынаходніцтва лічылі справай «нячыстай сілы» не толькі ў Расіі, але і за мяжой.

Аднак, не гледзячы на жорсткія расправы, чалавек не пакідаў думкі аб палёце.

### Ад шара да самалёта

Шар, вядома, быў першым крокам у справе заваёвы паветра. Чалавек з даўніх часоў марыў лятаць, як птушка і, нават, лепш і хутчэй. Шар не задаволіў чалавека, бо шарам найчасцей кіраваў вецер. Тады людзі ўспомнілі пра тую кніжку, якую некалі напісаў Леанарда да Вінчы. Думка, што самалёту патрэбен вінт з лопасцямі, зацікавіла людзей.

Паспрабавалі зрабіць такі вінт, але тут паўстала новае пытанне: хто-ж яго будзе круціць? Нехта надумаўся скарыстаць для гэтай справы механізм гадзінніка. Але такі самалёт толькі прыгожа скакаў. Тады да сваёй мадэлі самалёта ў 1870 годзе француз Пэно зрабіў «гумавы матор». Ён узяў доўгі моцны гумавы пасак і скруціў яго. У паветры пасак раскручваўся і рухаў вінт-прапелер. Хутка ўсе ўпэўніліся, што вінт-прапелер сапраўды здольны трымаць машыну ў паветры. Але-ж на гумавым маторы далёка не паляціш. Паспрабавалі паставіць на самалёт паравы рухавік, але хутка ад яго адмовіліся: ён вельмі шмат важыў.

Значна пазней выхад быў знойдзены. Паравы рухавік быў заменены бензінавым рухавіком унутранага згарання. Такі рухавік быў і лёгкі і меў вялікую сілу.

У 1903 годзе браты Орвіль і Вільбур Райт пабудавалі сабе самалёт з бензінавым маторам. Калі самалёт быў падрыхтаваны да палёту, браты заспрачаліся, каму ляцець першым. Памераліся на кіёк. Ляцець давялося Орвілю. Ён сеў у самалёт і ўзняўся ў паветра. Пратрымаўся ён у паветры 12 секунд і праляцеў 6 метраў на вышыні 1,5 метра.

Гэта былі першыя крокі самалёта ў паветры.

### Авіяцыя ў нашы дні

Цяпер самалёты нікому не здаюцца дзівам. Самалёт зрабіўся звычайным відам транспарта, а ў вайну ён з'яўляецца сур'ёзнай зброяй.

Ужо ў вайне 1914—1918 гадоў кожная ваюючая краіна стварыла паветраны флот. Узнікла шмат заводаў, якія пачалі будаваць самалёты розных канструкцый.

Цяперашнія самалёты могуць лятаць з хуткасцю 400—500 і нават 700 кіламетраў у гадзіну.

У Айчыннай вайне супроць нямецкіх захопнікаў наша савецкая авіяцыя пакрыла сябе неўміручай славай. Нашы лётчыкі скінулі на галовы нямецкіх захопнікаў тысячы бомб, яны знішчалі варожую тэхніку, чыгуначныя вузлы, эшалоны. За гады вайны ў нас былі створаны новыя выдатныя штурмавікі, знішчальнікі, бамбардыроўшчыкі, якія наводзілі жах на ворагаў. Усяму свету вядомы савецкія штурмавікі «Ілы», знішчальнікі «Лагі», бамбардыроўшчыкі канструкцыі Петлякова.

Усяму свету вядомы таксама нашы выдатныя лётчыкі, героі паветраных баёў—Пакрышкін, Гастэла, Кажэдуб, браты Глінкі, Талаліхін ды шмат іншых.

Савецкая краіна—магутная авіяцыйная дзяржава. Вось чаму нашы лётчыкі выйшлі пераможцамі ў вайне супроць нямецкіх і японскіх захопнікаў.

Вялікую ролю адыгрывае авіяцыя ў гаспадарчым і культурным жыцці нашай краіны, у выкананні новай Сталінскай пяцігодкі. Авіяцыя выконвае ролю транспарта, скарыстоўваецца для сяўбы лесу, вядзе барацьбу з шкоднікамі калгасных палёў іляснымі пажарамі, абслугоўвае навукова-даследчыя станцыі, перавозіць пошту.






(Працяг*)

Янка МАУР

*Мал. А. Волкава*

## ПАЖАР

Сёння нядзеля, і наша кампанія ў лесе. Зусім не так мне, як тады, калі бываю ў лесе толькі з мамкай удваіх. Ніякай цішыні, таямнічасці, і сам лес зусім не такі. Нас чалавекі чатыры, а напоўнілі мы ўвесь лес, не толькі сваім шумам і крыкам, але і народам. Мы — усюды, і лес здаецца ўжо зусім невялікім.

Шмат работы ў лесе. Перш за ўсё трэба абследаваць і разбурыць усе гнёзды, якія ёсць у лесе. А яны бываюць і высока на соснах, і ў дуплах ліцсевых дрэў, і на зямлі, і ў кустах. Затым у лесе многа розных жывых стварэнняў—і за імі ўсімі трэба ганяцца. Мурашнік кожны трэба разграбсці. Трэба, калі трапіцца арэшнік, абчысціць яго, незалежна ад таго, ці падраслі ўжо арэхі, ці не. У лесе можна выразаць добрую палку, пугаўё. Выражаш адно, а там глядзіш — яшчэ лепшае. Як-жа-ж яго пакінуць? Кідаеш першае, рэжаш другое. Адным словам, работы не абярэшся. Калі патрапіш на ягады, то проста няма часу і пакаштаваць іх, калі не хочаш адстаць ад кампаніі.

Мне здаецца, што, апрача птушак, больш за ўсіх у лесе павінны былі трывожыцца змеі. Ім ужо спуску не было, адусюль выкалупаем.

— Хлопцы, сюды! — грамовым голасам крычыць Міхалутка.

Падбягаем, а ён расшчэпленай палкай прыціскае змяю. Круціцца гадзюка, стукае сваім носам аб палку. Я сваёй свежа зрэзанай палкай ткнуў яе ў галаву, але на мяне закрычалі:

— Асцярожней! Асцярожней!

Аказваецца, калі змяя сваім жалам джгане ў свежы канец палкі, то атрута можа перайсці на другі канец і пашкодзіць руку. Пятрусь зараз-жа прадэманстраваў гэта на вопыце. Падсунуў канец сваёй палкі да галавы змяі, тая джганула — і мы ўсе ўтаропіліся ў другі канец.

— Глядзіце! Глядзіце!.. Чарнее!.. Во, праклятая!..

Праўду кажучы, ніякага пачарнення я не заўважаў. Але ўсе так былі ў гэтым упэўнены, што я вымушаны быў убачыць. Мусіць, і кожны таксама бачыў, як і я. Хай-бы хто паспрабаваў цяпер сказаць нам, што ніякага пачарнення не было, што атрута не можа такім чынам перайсці на другі канец палкі. Мы-б шышкамі закідалі.

— У мурашнік яе!.. У мурашнік!

Змяю замацавалі ямчэй і ўрачыста панеслі ў мурашнік. Міхалутка высока трымаў яе ў паветры, і яна развявалася, нібы сцяжок ад ветру. Палку ўтыркнулі ў кучу вольным канцом, нібы крыж на магіле. Мурашкі рынуліся па ёй уверх і абляпілі змяю.

Што тут пачалося! Як сіпела, як выкручвалася змяя! А мы толькі цешыліся. На тое яна і змяя...

Раптам мы ўбачылі над лесам дым. Хто-б такі без нас мог раскласці гэткае вогнішча? Пабеглі ў той бок — дым усё наперадзе. Выбеглі на ўскраек лесу і ўбачылі, што гарыць... наша вёска! Ды як яшчэ гарыць!..

Як мы беглі — мусіць, ніхто з нас не памятае. Памятаю толькі, як я прыбег на гарод і паваліўся на клункі і падушкі. Вакол вёскі размясціўся нібы табар. Трэск пажару і крыкі людзей зліліся ў адзін жудасны гул. Вецер быў моцны і дзьмуў акурат уздоўж вуліцы. Саламяныя стрэхі ўспыхвалі адна за адной, нібы самі сабою.

Хоць і жудасна мне было, але жалю і гора я не адчуваў: надта цікава было глядзець на пажар, якога яшчэ я ні разу не бачыў. Разам з іншымі дзецьмі енчыў і я, але вочы нашы ў гэты час з вялікай цікавасцю сачылі за тым, што робіцца навокал.

Да нашай хаты яшчэ не дайшло, загаралася толькі суседняя хата. Маці, цётка Наста і ўсе суседзі, абліваючыся потам, валаклі на гароды, што маглі. А калі агонь ахапіў і нашы будынкі, то маці раптам закрычала немым голасам.

— Боты!.. Боты!.. — і з распушчанымі валасамі кінулася прама ў агонь.

Людзі яе затрымалі і пасадзілі на клункі. Яна павалілася і рвала на сабе валасы...

---

*) Пачатак гл. у №№ 3,4,5—6,7,8—9.

У клепі, забытыя, гарэлі мае боты. Тыя боты, з рознакаляровымі халявамі, з памерам, разлічаным на ўсе гады навучання, боты, якія будаваліся некалькі гадоў і былі асновай усёй маёй слаўнай будучыні! Іх можна было-б выратаваць, але яны былі схаваны далёка, я іх ніколі не насіў — і маці на іх забылася...

Праз некалькі гадзін ад двух трацей вёскі Гнілушкі засталіся адны печкі ды коміны ў тых хатах, дзе яны былі. Як астравы, засталіся яшчэ ўсе чатыры багатыя двары. Сады і дрэвы вакол іх абсмаліліся, але выратавалі сваіх гаспадароў. І яшчэ застаўся канец вёскі да той хаты, адкуль пачаўся пажар. На гэтым канцы была і хата цёткі Вулькі. Туды мы і перасяліліся.

Праз некалькі дзён усе пагарэльцы разышліся па ваколіцах жабраваць. Хутка выявілася, што «заработкі» жабракоў былі лепшыя, чым непацярпеўшых гаспадароў. Тады і яны далучыліся да пагарэльцаў. А пра нас з мамкай і гаварыць не было чаго.

І вось адправіліся мы жабраваць. Работа гэта мне вельмі спадабалася. Ідзеш сабе па палях і лясах, кожны дзень, кожную гадзіну ўсё новыя месцы, незнаёмыя, цікавыя. Спяшацца нікуды не трэба, можна адпачываць, дзе хочаш і колькі хочаш. А ўбачыш дзе страху і ідзеш, як у свой дом — заўсёды што-небудзь дадуць. Ніколі раней не даводзілася мне столькі папіць малака, як у гэтыя часы. Мы-ж, апрача ўсяго былі «удава з дзіцем», і гэта давала некаторыя перавагі.

Сяляне суседніх вёсак сустракалі нас досыць прыхільна, не гледзячы на тое, што ўсе мы бадзяліся там безупынна. Торбы нашы не пуставалі, я не памятаю, каб хто нас прагнаў. Луста хлеба, мерка збожжа, часам кавалачак сала, пучок ільну, шматок палатна хутка напаўнялі нашы торбы, і мы павінны былі вяртацца дадому.

Нарэшце мы сталі ўхіляцца ад хлеба і збожжа і стараліся здабыць чаго-небудзь лягчэйшага і даражэйшага. Грошай ад сялян бадай што не перападала. Іх давалі нам паны: поп, ксёндз, служачыя. Звяртацца да іх я надта не любіў, бо ў першую чаргу трэба было пацалаваць ім руку. Звычайна маці штурхане мяне пад бок, каб я пацалаваў руку, а сама чакае: калі пан дасць якую залатоўку, то і яна пацалуе, а калі не — я адзін адказваў. Але хутка я прызвычаіўся да гэтай работы ,і пацалаваць руку было мне ўсёроўна што плюнуць. Затое я добра памятаю, што ніколі сам не прасіў і не енчыў. Я жабраваў і цалаваў рукі з гонарам. Я лічыў, што калі я зрабіў сваю работу, то пан павінен мне заплаціць.

Хутка мы ўсе так абрыдлі бліжэйшым сялянам, што яны пачалі ўхіляцца ад нас. Трэба было ісці ўсё далей і далей у некранутыя месцы, а цягаць далёка поўныя торбы было цяжка.



*Раптам мы ўбачылі над лесам дым.*

Аднаго разу, забраўшыся вельмі далёка, мы сустрэлі нашага чалавека, Мікіту, які не пагарэў, меў карову, каня і добрую гаспадарку. Ён ехаў ад хаты да хаты на кані, пасадзіўшы на воз двух дзяцей. А на возе былі поўныя мяхі жыта, ячменю і ўсялякага дабра. Мы за ўсё лета не сабралі столькі, колькі ён за адзін раз. Крыўдна і зайздросна нам было.

— Багатым і жабраваць лепш,—уздыхнула маці.

Але на зіму і мы сталі багатымі. Ніколі не было ў нас столькі хлеба, сала, кудзелі, рызза. І хоць маці хавала ад мяне грошы, але я заўважыў,

што ў яе набралася іх не менш за пяць рублёў, а можа і болей.

Сустрэча з Мікітам не прайшла для нас дарэмна. Маці падгаварыла Домну, каб разам набыць ні больш, ні менш, а ўласнага каня! Усю зіму яны сустракаліся, шапталіся, а на вясну ў нас сапраўды з'явіўся ўласны конь. Заплацілі за яго — я гэта добра ведаю — чатыры рублі. Аж цяпер дух займае, калі я падумаю пра ўласную палову каня. Тым болей, што я мог лічыць сябе і поўным гаспадаром яго, бо на нашы дзве сям'і я быў адзін мужчына (у Домны была яшчэ пяцігадовая дачка Марфа). Я і пасвіў каня, і ездзіў на ім вярхом. Вярхом на сваім уласным кані! У той час як у большасці сапраўдных гаспадароў не было свайго каня. Праўда, ездзіць на ім вярхом было крыху нязручна. У яго была не спіна, а дошка рубам і сядзець на ёй было вельмі нязручна: хутка ў мяне ўся задняя частка цела закарэла ад балячак. Але гэта было глупства. Потым — рэбры ў яго надта выступалі, і на адно вока ён, здаецца, не бачыў. Хлопцы казалі, што наш конь мае сто гадоў, але я не верыў: я ведаў, што яны гавораць так ад зайздрасці. Апрача пашы, мы кармілі яшчэ яго жабрацкімі сухарамі, збожжам, нават перападала яму і аўса. А як я любіў яго, мілаваў, цалаваў!

Прайшла вясна, надышло лета, конь наш трохі паправіўся, а калёс у нас не было. Жанчыны біліся, як рыбы аб лёд, патрацілі ўсю сваю маёмасць—і нарэшце з'явіўся ў нас воз, хамут і ўсе прылады. Адкуль яны з'явіліся, я не ведаю; ведаю толькі, што ўсе чатыры колы былі рознай велічыні і рознай якасці.

Нарэшце прышоў дзень, калі мы, чатыры чалавекі, пагрузіліся на гэты воз. Я, як мужчына, сядзеў наперадзе, учапіўшыся за лейцы, хоць кіравала канём то маці, то Домна. На роўнай дарозе, без праезджых, лейцы заставаліся толькі ў маіх руках — і тады-б я не памяняўся сваім становішчам нават з губернатарскім сынам.

Усім вядома, што конь вельмі хутка адчувае і разумее, у якіх руках ён знаходзіцца. А як наш конь быў не горшы ад іншых, то і ён гэта зразумеў і зусім перастаў нас усіх слухацца. Ішоў, куды хацеў, спыняўся, калі і дзе хацеў. Але ўсё-ж такі дзве жанчыны то ўгаворамі, то крыкамі, а часам і слязьмі прымушалі яго рухацца.

Перад гэтым мы пачулі, што некаторыя нашы сяляне сталі браць у воласці даведкі, што яны пагарэльцы. Гэтая даведка служыла нібы «правам на жабрацтва». Атрымалі такія паперкі і мы. Наша паперка служыла нам яшчэ не адзін год.

Зажылі мы, як цыганы. Не ведаю, як нашы маткі, а мы з Марфай лепшага жыцця і не жадалі. Не памятаю толькі, каб мы доўга так ездзілі. Падазраю, што жанчыны пасварыліся, і кампанія лопнула. Пад канец лета мы зноў засталіся з адным канём. Але на гэты раз абедзьве паловы яго былі нашымі ўласнымі. Магчыма, што і ўвесь час конь лічыўся наш, а колы Домніны. Можа з-за таго і прадпрыемства развалілася. Хто яго ведае? Маці мне пра гэта нічога не казала. Ведаю толькі, што пад восень мы апынуліся зусім у новым свеце.

... Уздоўж ускрайку дрымучага лесу працякае рака з досыць высокімі берагамі. Затым яна ўваходзіць у лес, як у чорную дзіру, бо дрэвы зусім злучыліся пад ёю. У гэтым самым месцы стаіць млын. Але не стукаюць яго колы, не чуваць голасу чалавека, зарасла травой дарожка да яго. Гаспадары тут — кажаны, змеі і сава.

Ад млына на другі берат ідзе грэбля. Скрозь яе ўсюды прабіваюцца струменьчыкі вады. Яны гурчаць, пішчаць, верашчаць — вельмі цікавая грэбля. А ў сухіх мясцінках на ёй жывуць вужакі. Заўсёды яны ляжаць тут, як чорныя кілбасы, ад мяне не ўцякаюць, і я іх не чапаю. А самы галоўны вуж, іхні цар, жыве пад колам млына. Ён умее гаварыць па-чалавечаму і, калі захоча, можа даць табе, што папросіш. Такія казкі чуў я ад мамкі. Але сустрэцца з ім мне ніяк не ўдаецца. Вельмі шкада... А ў мяне ўжо знайшлося-б, што папрасіць.

Рака з аднаго боку грэблі чорная, зарослая, бяздонная, непрыступная.

Куды лепшы быў другі бок. Берагі былі камяністыя, на дне толькі адны камені, вада чыстаюткая, празрыстая, светлая і зусім неглыбокая. Я мог хадзіць там і ўздоўж і ўпоперак. Жылі там ракі, але чапаць я іх баяўся: звяжашся так, што потым і не адчэпішся. Тут я раз убачыў двух чалавек, першых і адзіных людзей за колькі тыдняў майго жыцця ў гэтым кутку. Вылезлі яны з чорнай дзіры. Брылі проста па рацэ; на баку ў іх віселі мокрыя торбы, а ў руках былі доўгія палкі з вострымі вілкамі на канцах. Яны ішлі ціханька, моўчкі, раптам спыняліся і цалялі вострымі канцамі ў рыб. Не скажу, каб сустрэча з імі была для мяне прыемнай. Яны былі тут зусім лішнімі.

Ад млына адзін бераг ракі не быў парослы лесам. Там, за кустамі і сенажацямі, ішлі палеткі і відаць былі стрэхі дамоў, але там мне ні разу не даводзілася бываць і адтуль ніхто сюды не заходзіў, апрача гэтых двух чалавек.



*Нарэшце з'явіўся ў нас воз, хамут і ўсе прылады.*

ўсе яны былі галодныя і кваціліся на наш хлеб. Асабліва мурашкі. А больш ніякіх непаразуменняў з імі не было.

Але ў хаце нам сядзець не прыходзілася. Маці, нарыхтаваўшы мне ежу на цэлы дзень, кудысьці ішла і вярталася толькі напач. А я меў пэўную работу. З намі-ж быў ён, наш любы конь! З ім я і праводзіў увесь час. Больш мне нікога і не трэба было.

Супроць млына, на другім беразе, стаяла хатка, дзе мы з мамкай жылі. Яна стаяла, прытуліўшыся да стромкага берагу так, што плоская страха зусім злучалася з зямлёй. Тут пачынаўся дрымучы бор, і адна сасна зусім наступіла нагой на нашу хатку. Ды яшчэ высачэнны мурашнік захапіў частку нашай страхі. Тут у лесе, можа над самай нашай галавой, казалі старыя, жыў лесавік. Яго таксама не давялося мне бачыць, хоць многа разоў я чуў, як ён адгукаецца, дражніцца.

Я добра не памятаю, які выгляд мела наш хатка ў сярэдзіне. Агульнае ўражанне — усё чорнае, апрача маленечкага акенца з кавалачкам шкла ў адным кутку шыбы. Але, прызвычаіўшыся, можна было сёе-тое бачыць: наш ложак, складзены з ламачча, нібы рэшткі печкі, нават нешта такое, на чым мы маглі сядзець і есці. Скакалі жабы па чорнай земляной падлозе, а мурашкі працерабілі дарогу са страхі, па сцяне, па зямлі, зноў па сцяне — і ў акно. Найбольш-жа было вужакаў. Яны спачатку палохаліся нас, але потым убачылі, што мы людзі мірныя і сталі жыць, як раней. Мы з імі абыходзіліся далікатна, бо ведалі, што тут іхняе царства, а там, пад колам млына, жыве іхні цар. Толькі жаб мы выганялі, але дзе ты іх усіх выганіш? Адна бяда была — надта ўжо

Недалёка ад хаты была балоцістая палянка, зарослая асакой. Там я і пасвіў свайго каня. Часам здавалася, што толькі мы з ім адны і існуем на свеце. Я збіраў навакол кожную смачную травінку і даваў яму з рук.

Восень усё паглыблялася. Зачырванеліся, а потым пажоўклі бярозы. Пабялела асака. Яна мне падабалася больш як лес, як рака. Яна была прамая, стройная і даходзіла мне бадай што да пояса. Сонца прасвечвала яе наскрозь, да самай зямлі. Калі я падыходзіў да яе, у мяне салодка млела сэрца. Я мог сядзець і глядзець на яе хоць увесь дзень. Можа таму гэтая асака здавалася мне такой чароўнай, што па ёй хадзіў мой чароўны конь?..

А восень ішла ўсё далей і далей. Пачаліся хмарныя дні, туманы, шэрыя дажджы. Але мая асака ўсёроўна была прывабнай. І хата была ўтульная, калі не лічыць, што яна працякала ў часе больш вялікага дажджу. І вужакі, і мурашкі, і ўсё насельніцтва вакол млына былі мне блізкія, родныя. Я шчыра-б засмяяўся, каб хто мне сказаў, што наш куток пусты, нудны, няўтульны.

Дрэнна толькі было, што дні сталі значна карацейшымі. Часамі было цёмна ўжо, а маці не

прыходзіла. Тады я сядзеў каля свайго каня, які туліўся каля хаты. Святла ў нас ні разу не было. Хіба толькі тады, калі маці на прыпечку варыла бульбу.

Мы клаліся спаць на наш ложак. Наступала поўная цемра. Маці, седзячы на ложку, пачынала сваю малітву.

Яна казала гучна, нейкім незнаёмым, звінячым голасам. Гэта быў адзіны чалавечы голас на многа кілометраў навакол. Дрыжыкі бегалі па ўсім маім целе.

Над страхой шамацяць сосны, гурчыць вада на грэблі. Нехта недзе папісквае, нешта трашчыць.

Уначы мы пачулі, што нехта варушыцца паміж нас. Дакрануліся — халоднае, слізкае.

Вужака запаўзла грэцца да нас! Прышлося выкінуць яе самым грубым чынам.

— Мам! — пытаюся я. — Чаму-ж вужакі не баяцца малітвы?

— Гэта толькі для нячысцікаў.

— А хіба зусім няма малітвы для змеяў, мурашак, блох?

— Не ведаю, — сонным голасам адказвае маці.

Надта шкада, што мы не ведаем такой малітвы. Тады ўжо зусім добра было-б жыць на свеце.

* * *

Чаго мы тут сядзім? Што робіць маці? Ці думае яна і зіму тут жыць?

Не памятаю, каб я гэтым цікавіўся і каб маці мне пра гэта казала. Відаць, у мяне і без таго было чым цікавіцца.

Думаю, што яна спрабавала тут набыць самастойныя колы. І гэта не ўдалося.

Тады яна, не папярэдзіўшы мяне, прадала каня. Можна сабе ўявіць, якое гора я адчуў!

Пасля таго мы зноў вярнуліся ў нашы Гнілушкі.

**(Працяг будзе).**

# *Як атрымаць шахматную кваліфікацыю*

Віця Гарэлік (Гомель) прыслаў у рэдакцыю ліст.

«Скажыце, калі ласка, як атрымаць шахматную катэгорыю?» — пытаецца ён.

Адказваем на пытанне Віці Гарэліка.

Кожнаму шахматысту прысуджаецца пэўная катэгорыя і выдаецца спецыяльны кваліфікацыйны білет. Чым мацнейшы шахматыст, тым вышэй яго катэгорыя. Усяго ёсць 8 катэгорый.

Самай вышэйшай катэгорыяй з'яўляецца званне гросмайстра СССР. Наступная кваліфікацыйная ступень — майстар СССР, затым — кандыдат у майстры. Усе астатнія шахматысты падзяляюцца на 5 катэгорый: 1-я, 2-я, 3-я, 4-я і, самая ніжэйшая,—5-я катэгорыя.

Большасць шахматыстаў паслядоўна праходзіць усе катэгорыі. Так, чэмпіён СССР Міхаіл Батвінік спачатку быў шахматыстам пятай катэгорыі. Потым, авалодваючы майстэрствам ігры, ён пераходзіў ад адной катэгорыі да другой, а ў 1935 годзе атрымаў званне гросмайстра СССР.

Каб атрымаць пярвічную — пятую — катэгорыю, трэба сыграць у турніры, дзе ўдзельнічае не менш 11 шахматыстаў і набраць 50% ачкоў, г. зн. не менш 5 ачкоў. Выйгрыш партыі лічыцца за ачко, нічыя — поўачка, пройгрыш — 0.

Калі турнір закончыцца, табліца яго вынікаў падпісваецца суддзёй турніра (арганізатарам) і перадаецца ў раённы ці гарадскі совет фізкультуры. Шахматыстам, якім кваліфікацыйная камісія прысудзіць пасля гэтага катэгорыю, даецца «Кваліфікацыйны білет».

Каб атрымаць 4-ю катэгорыю, трэба сыграць у турніры, дзе ўсе шахматысты ўжо маюць 5-ю катэгорыю. Прысуджаецца 4-я катэгорыя таму, хто набярэ 60% ачкоў.

---

Адказ на шахматную задачу, змешчаную ў № 7.

1. Лh2 — h6! Пасля любога хода чорных, белыя другім ходам аб'яўляюць «мат».




Ір. КУЗНЯЦОВА

Мал. М. Гурло

### НЯСПОЎНЕНАЕ ЖАДАННЕ

Нікалай Міхайлавіч Пржэвальскі нарадзіўся 13 красавіка 1839 года ў сяле Атраднае на Смаленшчыне.

Калі хлопчыку споўнілася сем год, памёр яго бацька. Апрача Нікалая, сіротамі засталіся яшчэ два малодшых яго браты — Уладзімір і Яўгені. Маці ўвесь час была занята гаспадарчымі справамі, і таму дзяцей даглядала няня Макар'еўна. Яна часта апавядала хлопчыкам цудоўныя народныя казкі аб смелых і дужых людзях, аб таямнічых далёкіх краінах. Нікалай вельмі любіў казкі Макар'еўны і слухаў іх з вялікай цікаўнасцю.

Чытаць ён навучыўся вельмі рана—у пяць год. З дзесяці год ён паступіў у смаленскую гімназію і хутка стаў адным з лепшых і прыкладных вучняў.


*Н. М. Пржэвальскі.*

Вясною, пасля першага года вучобы, ён бліскуча вытрымаў іспыты і прыехаў на канікулы ў сваё роднае сяло Атраднае. За добрую вучобу маці падаравала яму старую бацькаву стрэльбу, і Нікалай разам з сваім братам і дзядзькам пачаў хадзіць на паляванне.

Блукаючы ў пошуках дзічыны, Пржэвальскі ўважліва да ўсяго прыглядаўся і прыслухоўваўся. Яго цікавіла ўсё — і жыццё птушак, і звяроў, і стары лес, у якім раслі самыя рознастайныя пароды дрэў, і поле з зялёнымі ўсходамі.

Ён успамінаў няніны казкі аб далёкіх краінах, і яму хацелася самому пабыць у іх. Хлопчык марыў аб вялікіх падарожжах, аб пераходах цераз бязводныя пустыні, цераз горы. Але пакуль што трэба было вучыцца і ён настойліва вывучаў батаніку, заалогію, геаграфію.

Ён хацеў быць мужным і смелым. Вось чаму ў 1855 годзе, скончыўшы гімназію, Пржэвальскі добраахвотна ідзе ў армію, каб стаць у рады гераічных абаронцаў Севастопаля.

Ужо будучы ў Арміі, Пржэвальскі паступіў у ваенную Акадэмію і скончыў яе ў 1863 годзе. У той час зусім была не даследавана Цэнтральная Азія, і Пржэвальскі парашыў арганізаваць туды навуковую экспедыцыю.

Цэнтральная Азія займае 5 млн. кв. клм. На поўдні яна пралягае да Інда-Кітая, на ўсходзе — да Кітая і Манчжурыі, на поўначы мяжуецца з Сібірам, а на паўднёвым захадзе з Кіргізскімі і Казахскімі стэпамі. З усіх бакоў гэтая краіна акружана высокімі горнымі ланцугамі. Азія даўно цікавіла географаў усяго свету, але рабіць туды падарожжы ніхто не адважваўся.

Аб сваім намеры Пржэвальскі паведаміў Рускае Геаграфічнае таварыства і напісаў план падарожжа ва Усурыйскі край. Аднак, члены таварыства палічылі план фантастычным і з Пржэвальскім не згадзіліся. Ім здавалася немагчымым прайсці тысячы кіламетраў па недасле-



*Па берагах ракі Амур рос непраходны густы лес.*

даванай краіне, з бязводнымі пустынямі і безымяннымі хрыбтамі, па краіне, населенай ваяўнічымі народамі, якія наводзілі жах на кітайскія войскі і знішчалі цэлыя плямёны з іхнімі гарадамі.

Геаграфічнае таварыства не падтрымала Пржэвальскага, і толькі намеснік старшыні таварыства Сямёнаў, сам нястомны падарожнік, паціскаючы на развітанне Пржэвальскаму руку, сказаў:

— Вам трэба чым-небудзь праявіць сябе...

## ПЕРШАЕ ПАДАРОЖЖА

Сумны вышаў Пржэвальскі з будынка Геаграфічнага таварыства. У Пецербургу заставацца ўжо не хацелася, і праз некалькі дзён ён паехаў на службу ў Іркуцк.

У 1867 годзе Пржэвальскі атрымаў службовую камандыроўку ва Усурыйскі край. Сібірскі аддзел Геаграфічнага таварыства даручыў яму апісаць прыроду гэтага края і зрабіць батанічную і заалагічную калекцыю.

Ехаць аднаму ў такую дарогу было небяспечна. Таму Пржэвальскі ўзяў двух спадарожнікаў: Нікалаева і задорнага юнака Ягунова, вучня-тапографа.

21 мая 1867 года падарожнікі пакінулі Іркуцк. Дабраўшыся да прыстані на рацэ Шылка, яны хацелі сесці на параход, але параход пацярпеў аварыю. Тады Пржэвальскі, Нікалаеў і Ягуноў селі ў лодку і на ёй даплылі да Амура. Тут яны пераселі на параход, які ішоў у Хабараўск. Па берагах ракі Амур рос непраходны густы лес, аплецены зялёнымі зараснікамі. Пржэвальскі быў у захапленні ад гэтых лясоў. У сваім дзённіку ён пісаў:

«Асабліва чаруе ёлка, абвітая вінаграднікам, або пробкавае дрэва і грэцкі арэх, якія растуць побач з кедрам і піхтай. Паляўнічы сабака знаходзіць вам мядзведзя ці собаля, тут-жа побач можна сустрэць тыгра».

Гэта быў дзікі, яшчэ нязведаны край. Пржэвальскі і яго спадарожнікі ў Хабараўску сышлі з парахода і адсюль ужо на лодцы дабраліся да ракі Усуры.

— Цяжкасці пачнуцца толькі цяпер,— сказаў Пржэвальскі сваім сябрам.

Павольна і марудна яны ішлі наперад па беразе ракі, збіраючы расліны і палюючы на звяроў і птушак.

«Уставалі мы звычайна на світанні,— пісаў у сваім дзённіку Пржэвальскі. — Спяшаючыся, пілі чай і ішлі далей, а з надыходам вечара спыняліся, сушылі сабраныя за дзень расліны, складвалі забітых птушак і запісвалі ўсё, што бачылі...»

У пачатку жніўня падарожнікі дасягнулі возера Ханка. Возера Ханка — своеасаблівая птушыная станцыя. Тут можна сустрэць розныя пароды птушак, аб якіх у той час навука яшчэ нічога не ведала. Для Пржэвальскага гэта быў цэлы скарб. Доўга ён тут паляваў, збіраючы свае калекцыі.

Надыходзіла суровая зіма, а падарожнікам трэба было яшчэ праз дзікі ўсурыйскі лес дабрацца да пабярэжжа Японскага мора і адтуль пранікнуць у яшчэ менш вядомы паўднёва-усурыйскі край.

Зіма захапіла іх у даліне ракі Сучан. Дзень і ноч дзьмуў халодны вецер; ён нёс хмары снежнага пылу, засыпаў рэч-



*Конь Пржэвальскага.*

кія сцежкі. Пржэвальскі і яго сябры ішлі па калені ў снезе. Часам яны блукалі па некалькі дзён, шукаючы згубленую дарогу. На кожным кроку іх цікавалі дзікія звяры. Аб адным паядынку з мядзведзем-гігантам Пржэвальскі пісаў:

«Гэты момант не згладзіцца ў маёй памяці ўсё жыццё. І праз шмат год усё гэтак-жа ясна, як у тую хвіліну, буду я памятаць гэтую ашчэраную зяпу, крывавага колеру язык і вялізныя зубы»...

Аднак, не гледзячы на цяжкасці і небяспеку, Пржэвальскі дакладна даследваў прыроду, вёў дзённік, наносіў на карту свой шлях.

Да канца падарожжа ў яго кашолках было больш тысячы розных раслін, з якіх большасць яшчэ невядомых, і дзвесце птушыных скурак.



*У пустынях Азіі.*

незвычайнае падарожжа выклікала ўсюды вялікае здзіўленне.

На працягу трох год першага падарожжа па Азіі экспедыцыя Пржэвальскага прайшла 11.100 вёрст. Падарожнікі даследвалі надвор'е, людзей, расліны і жывёл гэтай краіны. Яны прынеслі вялікую славу рускай навуцы, а імя Пржэвальскага стала вядомым усяму свету.

У лясах Азіі Пржэвальскі знайшоў цікавую жывёлу-продка сучаснага каня. Гэтага продка вучоныя назвалі «канём Пржэвальскага».

Пасля гэтага Пржэвальскі зрабіў яшчэ тры падарожжы па Азіі. У 1888 годзе ён збіраўся ў пятае падарожжа, але захварэў і 2 лістапада 1888 года памёр. Пахаваны ён, згодна яго прадсмяротнай просьбы, у Азіі на высокім беразе возера Ісык-Куль. На магіле яго стаіць вялікі помнік, складзены з кавалкаў Тянь-Шаньскага граніту.

## ПРЫЗНАННЕ І УЗНАГАРОДА

У студзені 1870 года Пржэвальскі вярнуўся ў Пецербург. Калі абвясцілі, што ў Геаграфічным таварыстве яшчэ невядомы да гэтага малады падарожнік будзе рабіць даклад, слухаць яго прыйшлі вучоныя, студэнты і проста зацікаўленыя.

Апавяданне Пржэвальскага аб сваім падарожжы зрабіла вялікае ўражанне на прысутных.

Назаўтра Пржэвальскі атрымаў пісьмо ад Таварыства з паведамленнем аб узнагародзе яго сярэбраным медалем. Аднак не ўзнагарода яго хвалявала. Ён радаваўся таму, што нарэшце можа здзейсніцца яго мара аб падарожжы ў Азію.

І сапраўды на гэты раз Геаграфічнае таварыства адпусціла сродкі на экспедыцыю Пржэвальскага. Гэтае смелае



# ПАПЯРОВЫ ЗМЕЙ

Хто з рэбят не рабіў сабе папяровага змея і не запускаў яго ў неба! Многія думаюць, што папяровы змей для таго толькі і робіцца, каб іх забаўляцца.

Аднак гэта зусім не так.

У 1752 годзе вядомы амерыканскі вучоны Франклін зрабіў вялікага папяровага змея і ў часе навальніцы запусціў яго ў хмары. Замест вяроўкі да змея быў прымацаваны шаўковы шнур. Шнур вельмі хутка на дажджы намяк, зрабіўся электраправаднікам. Калі маланка ўдарыла ў змея, дык унізе з шнура выскачыла электрычная іскра.

Такім чынам, пры дапамозе змея Франклін як-бы звёў маланку з неба на зямлю і даказаў, што маланка—вялікая электрычная іскра. На аснове гэтага вопыта Франклін пабудаваў першы ў свеце громаадвод.

Для навуковых даследванняў папяровы змей скарыстоўваецца і цяпер. Пры яго дапамозе вучоныя вызначаюць ціск, склад і тэмпературу вышэйшых слаёў атмасферы. Да змея прымацоўваюцца розныя прыборы, якія самі запісваюць тыя ці іншыя паказальнікі.

# „Падаючыя зоркі“

Кожнаму даводзілася бачыць, як падае з неба зорка. У некаторыя ночы, напрыклад 10 і 11 жніўня, такіх падаючых зорак бывае вельмі шмат, па некалькі дзесяткаў у гадзіну. Бываюць нават выпадкі, калі падаючыя зоркі ўтвараюць цэлы зорны дождж.

Аднак у гісторыі яшчэ не было такога выпадку, каб упала сапраўдная зорка. Ды гэтага ніколі і не можа быць.

Падаюць на Зямлю не зоркі, а дробныя целы. Шмат якія з іх не большыя маленькіх каменьчыкаў. У сусветнай прасторы іх безліч. Вучоныя лічаць, што гэтыя каменьчыкі з'яўляюцца ад распаду камет. Носяцца яны ў сусветнай прасторы з вялікай хуткасцю. Сустракаючы на сваім шляху Зямлю, яны ўразаюцца ў верхні пласт акружаючай яе атмасферы, разгараюцца, ярка ўспыхваюць і ператвараюцца ў газы. Згараюць яны ў палёце, на вышыні 80—150 кіламетраў ад зямлі. Гэты момант успышкі і згарання і стварае тое прыгожае відовішча, якое мы, звычайна, называем «падаючай зоркай».

Як бачыце, гэтая з'ява адбываецца не ў сусветнай прасторы, не на вышыні сапраўдных зорак, а ўсяго за некалькі дзесяткаў кіламетраў ад нашай Зямлі.

Дробныя целы, якія залятаюць у нашу наземную атмасферу, называюцца метэорамі.

Чым большы і цвярдзейшы метэор, тым даўжэй і ярчэй ён гарыць і ператвараецца ў газы толькі за некалькі кіламетраў ад Зямлі.

Бываюць метэоры такія вялікія па памерах, што не паспяваюць згарэць у паветры і падаюць на зямлю. Такія метэоры называюцца метэарытамі.

Метэарыты падаюць на Зямлю рэдка. У музеі-ж трапляе нязначная колькасць іх, бо часта падаюць яны ў пустынных месцах, у акіяны, рэкі і азёры.

Цікавую з'яву ўяўляе сабою падзенне на Зямлю метэарытаў-гігантаў вагою ў тысячы тон. Адзін такі метэарыт упаў і ў нашай краіне.

У ціхую сонечную раніцу 30 чэрвеня 1908 года амаль над усім Сібірам з велізарнай хуткасцю праляцеў вогненны шар. У глухой сібірскай тайзе раздаўся страшэнны ўдар, і ў неба ўзняўся вялізны слуп агню. Асобныя прыборы, якія адзначаюць землетрасенні—сейсмографы, устаноўленыя ў Іркуцку, Ташкенце і пад Ленінградам, зафіксіравалі хвалю землетрасення. Хваля была заўважана нават у Аўстраліі і Амерыцы.

Усё гэта было выклікана падзеннем метэарыта, вагу якога вучоныя вызначылі ў дзве тысячы тон. Але доўгі час не маглі знайсці нават таго месца, дзе ўпаў метэарыт. Толькі праз дваццаць год рускі вучоны А. А. Кулік устанавіў, што метэарыт упаў у 100 кіламетрах паўночней ракі Падкаменная Тунгуска. У гэтым месцы на дзесяткі кіламетраў вакол ляжалі вывернутыя з карэннем дрэвы. Сіла сатрасення была такая вялікая, што на адлегласці 500 кіламетраў збівала з ног людзей і жывёл.

Але, як ні шукалі вучоныя, самога метэарыта не знайшлі. Цела, вагою ў дзве тысячы тон, знікла бясследна. Тлумачыцца гэта тым, што, дзякуючы сваёй вялізнай масе, метэарыт падаў на зямлю з хуткасцю ў 3—5 кіламетраў у секунду. Вось чаму пры яго ўдары аб зямлю адбыўся выбух такой сілы, якая раўняецца сіле выбуху двух тысяч тон нітрагліцэрына — моцнага выбуховага вешчаства. Метэарыт ператварыўся ў раскаленыя газы.

Цэлы шэраг гігантаў-метэарытаў, якія ўпалі на нашу планету, таксама ператварыліся ў раскаленыя газы, пакінуўшы на зямлі толькі вялізныя ямы.

У Злучаных Штатах Амерыкі, у Арызонскай пустыні, ёсць такая яма. Яе папярочнік дасягае 1200 метраў. Выкінутая вакол ямы зямля ўзвышаецца на 445 метраў над акружаючай раўнінай. Глыбіня ямы — 180 метраў.

Такія ямы называюцца метэарытнымі кратэрамі.

У Эстонскай ССР, на востраве Сарэма (Эзель) ёсць кратэр «Каліярв». Па памерах ён займае пятае месца ў свеце. Ён заліты вадою і ператварыўся цяпер у возера, якое мае 110 метраў у папярочніку.

# КАМЕННАЯ СОЛЬ

Бураў усё глыбей і глыбей уразаецца ў грунт. Праз кожны метр акуратна набірае выкінутую пароду ў асобыя скрынкі.

— Глыбіня 844 метры,—гаворыць майстар.

І вось на паверхню бураў выкідвае масу шэраватадымчатага колеру.

— Каменная соль!—з радасцю выкрыквае даследчык.—Наша здагадка спраўдзілася: каменная соль ёсць на Беларусі!

...Гэта было ў 1941 годзе на Палессі. Даследаванне праводзіла Беларускае геалагічнае ўпраўленне.

Вучоныя вылічылі, што ў недрах гэтага краю ёсць вялікія залежы каменнай солі, якая прыгодна для харчовых і прамысловых патрэб.

Якім-жа чынам і калі ў гэтым краі ўтварылася каменная соль, чаму яна залягае на такой вялікай глыбіні?

Яшчэ даўным-даўно, шмат тысяч год назад, уся паўднёвая частка Беларусі знаходзілася пад морам. Вядома, што марская вада мае хлорыстыя солі, сульфаты і іншыя хімічныя прымесі. У тыя-ж часы на зямлі было вельмі горача. Вада пры высокай тэмпературы выпаралася, а солі, якія знаходзіліся ў ёй, згушчаліся і залягалі на дне.

Так на працягу многіх тысяч год пры спрыяючых геалагічных умовах асядала вялікая колькасць солі. З цягам часу на яе адкладваліся ўсё новыя і новыя пласты парод. За перыяд ад яе ўтварэння да нашых часоў яна аказалася на глыбіні 844 метры.

Вучоныя мяркуюць, што на тэрыторыі Беларусі ёсць залежы гіпса, ангідрыда і расолаў.

Усе гэтыя багацці адкрываюць вялікія магчымасці для развіцця хімічнай прамысловасці на Беларусі.

**Н. ЗУЕЎ,**
ст. навуковы супрацоўнік Акадэміі Навук БССР.

---

## З М Е С Т



На вокладцы: мал. А. Волкава «Дамашняе заданне».
На ўкладках: Штурм Зімняга Палаца. Серго Орджанікідзе.


«Берёзка» — на белорусском языке. Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Пушкіна, 55. Дом друку.

Адказны рэдактар А. Якімовіч.

АТ 01119 Здана ў набор 9/X-46 г. Падпісана да друку 12/XI-46 г. Друк арк. 2.

Друкарня імені Сталіна. Мінск, Пушкіна 55. Тыраж 10.000 экз. Зак 358.

## ЧАТЫРЫ СЛОВЫ

| | | | |
|---|---|---|---|
| а | а | а | а |
| у | у | у | у |
| р | р | р | б |
| к | к | л | м |

Расстаўце гэтыя літары па клетках так, каб па гарызанталі і вертыкалі можна было прачытаць адны і тыя-ж словы — геаграфічныя назвы.

## ЗАДАЧКА З ГАДЗІННІКАМ



Падзяліце цыферблат гадзінніка прамымі лініямі на 6 частак. У кожнай частцы сума лічбаў павінна быць аднолькавая.

## КОЛЬКІ КАШТАВАЎ КОНЬ?

Вось што гаворыцца ў адной старадаўняй казцы.

У лесе, на паляванні, сустрэў пан селяніна, які вёў вельмі добрага каня. Пану спадабаўся конь.

— Прадай мне яго,—кажа пан селяніну.

— Купляй, — кажа селянін.

— А колькі ты за яго хочаш?

— У каня чатыры падковы, а кожная падкова прымацавана васьмю цвікамі, — сказаў селянін. — За першы цвік дай мне капейку, за другі — дзве, за трэці — чатыры і так за кожны наступны заплаці ўдвая больш. Тады я аддам табе свайго каня.

— Добра!—згадзіўся пан.

Але, калі пан падлічыў, дык атрымалася такая вялікая сума, што ён адмовіўся ад каня.

Колькі-ж каштаваў конь?

## ГАЛАВАЛОМКА З ЗАПАЛКАМІ

На малюнку вы бачыце вялікі квадрат, які падзелены на дзевяць роўных квадрацікаў. Квадрат складзены з запалак. Паспрабуйце адняць чатыры запалкі так, каб засталося 5 квадрацікаў.



---

**АДКАЗ НА РЭБУС З № 8—9:**

**«Будзь дысцыплінаваны, добра вучыся».**

Цана 2 руб. 50 кап.



# Па нашай Радзіме



*За годы новай сталінскай пяцігодкі будуць поўнасцю аднoўлены металургічныя заводы Данбаса. Шырокім фронтам ідуць аднаўленчыя работы на заводзе імені Сталіна.*

*На здымку: агульны выгляд доменнага цэха металургічнага завода імені Сталіна.*



*Больш каменнага вугалю краіне!—такую задачу паставілі перад сабой шахцёры Савецкага Саюза.*

*На здымку: шахта № 6 «Капітальная» трэста «Кізелвугаль» (Молатаўская вобласць). Яна ўступіла ў строй у гэтым годзе і цяпер перавыконвае норму здабычы вугалю.*